# Шляхі 10

# КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ



# Адказваем на ліст менскіх ударнікаў друку

У адказ на ліст менскіх ударнікаў друку рэдакцыя часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ бярэ на сябе наступныя абавязацельствы:

1) Арганізаваць праз часопіс збор прапаноў селькораў-калгасьнікаў да Ўсебеларускага зьезду рабселькораў.

2) З мэтай узмацненьня кіраўніцтва селькорамі—акрамя рэгулярнай пасылкі ня менш 1 разу ў месяц дырэктыўных лістоў селькорам—завесьці ў часопісі сталы аддзел „Перапіска з рабселькорамі“, у якім зьмяшчаць парады і адказы на запытаньні. Адначасова ўзмацніць існуючую пісьмовую сувязь з селькорамі.

Да Ўсебеларускага зьезду рабселькораў зьмясьціць на старонках часопісі артыкул аб чарговых задачах рабселькораў.

3) Для больш шырокага ўцягненьня ў супрацоўніцтва часопісі калгасьнікаў і рабочых саўгасаў—практыкаваць пастаноўку дакладаў аб працы часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ ў буйнейшых калгасах, саўгасах і МТС. Да канца гэтага году зрабіць такія даклады ня менш як у 3-х калгасах.

4) Узяць шэфства над 3-ма насьценгазэтамі ў калгасах і наладзіць там работу з селькорамі.

5) Арганізаваць на старонках часопісі абмен вопытам работы калгасных насьценгазэт.

6) Падрыхтаваць 2-х работнікаў у газэце ці часопісу з ліку селькораў—калгасьнікаў.

7) З мэтай узмацненьня апэрацыйнасьці работы рэдакцыі і найлепшага асьвятленьня на старонках часопісу вопыту работы калектыўных гаспадарак—увесьці ў рабоце рэдакцыі дасканалую плянавасьць. Пляны нумароў часопісі старацца даводзіць да кожнага селькора часопісі „Шляхі Калектывізацыі“

8) Адпрацаваць ня менш 2-х гадзін на суботніку ў карысьць нізавога друку.

**Рэдакцыя часопісі „Шляхі Калектывізацыі“**

---

## Перадавыя раёны СССР дапамагаюць адстаючым

Гэтымі днямі з украінскай ССР прыяджае ў БССР 300 лепшых калгасьнікаў у дапамогу па арганізацыі калгаснага прыліву. Прыбываючыя таварышы будуць пасланы пераважна ў адстаючыя па калектывізацыі раёны.

## У дапамогу ўноўарганізаваным калгасам.

Перадавыя калгасы БССР вылучылі 700 лепшых калгасьнікаў у дапамогу ўноўарганізаваным.

У сувязі з вялікай колькасьцю арганізаваных новых калгасаў—Калгасцэнтр БССР пастанавіў: накіраваць у новыя калгасы ў парадку добраахвотнасьці дадаткова яшчэ 1000 лепшых калгасьнікаў з старых калгасаў тэрмінам ня менш, як на 6 месяцаў.

### ЗЬМЕСТ



---

**25 чэрвеня адчыняецца Ўсебеларускі зьезд рабселькораў. Селькоры сьпяшэце з дасылкай прапаноў да зьезду**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 10—МАЙ—1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

# 45 і ня менш

## процантаў калектывізацыі да 1 студзеня 1932 г. па гаспадаркам і ня менш 45 па плошчы да асеньняй сяўбы гэтага году.

**Не застанаўлівацца на дасягнутых посьпехах. Упарта змагацца за выкананьне кантрольных лічбаў калектывізацыі на 1931 г.**

## У БОЙ ЗА ДАЛЕЙШЫЯ ПОСЬПЕХІ!

„Выходзячы з дасягнутага ўзроўню калектывізацыі, разгортваньня МТС, саўгаснага будаўніцтва і павароту бядняцка-серадняцкіх мас на шлях калектывізацыі, створана магчымасьць ва ўмовах БССР дасягнуць проценту калектывізацыі ў веснавую пасеўную кампанію да 30 проц.“.

Гэтая дырэктыва студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б у асноўным выканана. Калектывізацыя бядняцка - серадняцкіх гаспадарак БССР дасягнула 30 процантаў. Значная колькасьцьць раёнаў перавысіла гэты процант, напрыклад: Лепельскі раён калектывізаваны на 65 проц., Клімавіцкі — на 60, Хоцімскі — 55, Касьцюковіцкі—52 і інш. Тэмп калектывізацыі паступова нарастае.

Аднак, ня гледзячы на маючыяся дасягненьні ў адносінах калектывізацыі, выкананьня ў асноўным проценту калектывізацыі, які вызначыў на вясну гэтага году пленум ЦК КП(б)Б—мы ні ў якім разе ня можам задаволіцца дасягну-

тымі посьпехамі. Трэба ня толькі не паслабляць, а падвоіць і патроіць энэргію ўсіх партыйных, савецкіх і калгасных органаў на сваечасовае выкананьне і перавыкананьне кантрольных меркаваньняў калектывізацыі — **да 1 студзеня 1932 году 45 проц. і ні ў якім разе ня менш.**

Асабліва трэба ўзмацніць тэмпы калектывізацыі ў адстаючых раёнах.

Такія раёны, як Быхаўскі — калектывізаваны на 18 проц., Барысаўскі—17 проц., Гомельскі—15, Бабруйскі—14, Рэчыцкі—13, Гарадокскі—12 і інш.—ганебна плятуцца ў хвасьце. Памянёныя раёны да гэтага часу не разгарнулі яшчэ сапраўдную бальшавіцкую масавую работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў па арганізацыі калгаснага прыліву. „Пасьля ліквідацыі перагібаў мінулага году ў калгасным руху ў цэлым радзе раёнаў, замест арганізацыі калгаснага прыліву панавала, а ў некаторых раёнах і цяпер пануе, праваапартуністычная стаўка на самацёк“. Гэтае ўказаньне красавіцкага пленуму ЦК КП(б)Б у адносінах шэрагу раёнаў застаецца зусім правільным і зараз.

Галоўнейшай задачай партыйных, савецкіх, камсамольскіх арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы зьяўляецца—далейшая барацьба за калгасны прыліў. Работа сярод беднякоў і сераднякоў — аднаасобнікаў павінна праводзіцца на аснове дырэктыў партыі і пастаноў 6-га Ўсесаюзнага зьезду саветаў.

Упарта змагацца з супраціўленьнем кулака, выкрываць яго манэўры і мабілізаваць калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы аднаасобнікаў—рашуча ламаць яго супраціўленьне і забясьпечыць баявыя тэмпы калектывізацыі. „Рабогу па калектывізацыі ні ў якім разе не адрываць ад гаспадарчага замацаваньня арганізаваных калгасаў (абугуленьне цяглавай сілы, інвэнтара, кармоў і насенных фондаў)“.

Бязьлітасная барацьба з праваапартуністычнай стаўкай на самацёк, а таксама і „лявацкімі“ загібамі ў калгасным будаўніцтве.

Перадавыя раёны павінны зараз-жа ўзяць на буксір адстаючыя ў адносінах калектывізацыі. Безадкладна паслаць у Быхаўскі, Барысаўскі, Гомельскі, Бабруйскі, Рэчыцкі, Гарадоцкі і іншыя раёны, якія адстаюць па калектывізацыі—лепшых калгасьнікаў з перадавых раёнаў у дапамогу па арганізацыі калгаснага прыліву.

Дырэктыва студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б павінна быць выканана і перавыканана ўсімі раёнамі.

**Калгасьнікі,** пад кіраўніцтвам КП(б)Б, яшчэ больш мабілізуйце сваю энэргію на пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы, на барацьбу за далейшыя посьпехі калектывізацыі.

**За 45 процантаў да канца бягучага году!**

За суцэльную калектывізацыю і на гэтай аснове ліквідацыю кулацтва як клясы!

# БАЛЬШАВІЦКАЯ СЯУБА -- ПАТРАБУЕ БАЛЬШАВІЦКАЙ УБОРКІ

**Узмацняючы тэмпы сяўбы—заразжа распачаць падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. Безадкладна скласьці ў кожным калгасе дасканалыя пляны ўборкі.**

**Прывесьці ў гатоўнасьць уборачныя машыны.**

## БАЯВЫМІ ТЭМПАМІ ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ПОСЬПЕХІ ЎБОРКІ

Больш двухсот тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, аб'яднаўшыся ў калгасы, праводзяць веснавую сяўбу калектыўна. Ужо ўвесну гэтага году пасеўная плошча яравых у калгасах складае звыш 832.000 *га*. Значна зьмянілася структура пасеўнай плошчы яравых у бок павялічэньня тэхнічных і працаёмных культур. Аднак посьпехі ў справе калектывізацыі і веснавой сяўбы могуць быць замацаваны належным доглядам за пасевамі і пасьпяховым правядзеньнем уборачнай кампаніі. Таму перад калгаснымі органамі і кожным калгасьнікам стаіць баявая задача ня толькі па-бальшавіцку пасеяць, а і па-бальшавіцку сабраць ураджай.

Трэба сказаць, што ўборачная кампанія гэтага году будзе праходзіць у менш спрыяючых умовах. З-за кліматычных умоў позна пачалася сяўба і тым самым скарочаны тэрміны догляду за ўраджаем і тэрміны падрыхтоўкі да ўборкі. Уборачная кампанія мінулага году павінна таксама паслужыць нам у гэтым годзе вялікім урокам. У радзе калгасаў з-за несваячасовай і належнай падрыхтаванасьці і дрэннай работы, частка ўраджаю як, напрыклад, ільну, бульбы засталася няўбранай. Галоўнае ў час уборачнай кампаніі—гэта чоткасьць у рабоце, правільная расстаноўка рабочай сілы калгасу, гібкасьць у апэрацыйным кіраўніцтве работамі, хуткасьць і сваячасовасьць уборкі ўсіх культур пасеваў з тым, каб убраць з палёў прадукцыю без якіх-бы та ня было страт.

Сваячасовае і поўнае правядзеньне ўборачнай кампаніі мы зможам забясьпечыць толькі пры ўмовах шырокай мабілізацыі ўсёй калгаснай масы навокал гэтай важнай і адказьнейшай палітычна-гаспадарчай задачы і калі як у цэнтры, так і на мясцох усе партыйныя, прафэсіянальныя, камсамольскія, савецкія і гаспадарчыя арганізацыі паставяць у цэнтр увагі сваёй работы гэтае пытаньне.

Пасьпяховае выкананьне пляну ўборкі залежыць галоўным чынам ад правільнай арганізацыі рабочай і цягавай сілы ў кожным калгасе, правільнага і поўнага скарыстаньня маючыхся ўборачных машын, правільнай арганізацыі і шырокага ўжываньня сацыялістычных форм і мэ-

тадаў працы, сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Важнае значэньне ў справе забясьпечаньня падвышэньня ўраджайнасьці набывае работа па догляду за пасевамі. Прымяненьне агранамічна-культурных мерапрыемстваў у час веснавога і летняга пэрыяду неабходна для нармальнага разьвіцьця ўсіх пасеваў, падняцьця ўраджайнасьці. Усе калгасы павінны ўключыць у сваю вытворчую праграму з каляндарным плянавым расьпісаньнем работ поліва гароду, кармавых караньплодаў, ільну і канапель, а таксама баранаваньне і акучваньне бульбы. Работы па догляду за пасевамі павінны вытварацца, як правіла, сваячасова, бо ўсякае спазьненьне выклікае вялікія страты.

Неабходна сваячасова падрыхтаваць інвэнтар, патрэбны для полкі і міжрадавай апрацоўкі. Трэба таксама падрыхтавацца і арганізаваць работу па барацьбе са шкоднікамі пасеваў палявых, гародных і садоў.

*Стварэньне кармавой базы зьяўляецца асновай для вырашэньня пытаньня разьвіцьця жывёлагадоўлі. Таму асабліва ўважліва трэба аднесьціся да ўборкі караньплодаў і сіласаваньня кармоў. Як правіла, на заліўных лугох трэба вытвараць два ўкосы. Вызначаная па пляну колькасьць зялёнай масы сіласаваньня павінна быць ня толькі выканана, але і перавыканана. Акрамя сілосных культур павінны быць скарыстаны і засіласаваны ўсе маючыяся ў гаспадарцы адкіды.*

У гэтым годзе пераважная частка ўраджаю калгасаў будзе вытварацца складанымі машынамі. Таму неабходна, каб усе маючыяся ў калгасах машыны былі адрамантаваны і забясьпечаны запаснымі часткамі сваячасова. Усе вызначаныя ўборачныя машыны для калгасаў шляхам завозу павінны ў самы кароткі тэрмін быць завезены па прызначэньню. Ніводнай машыны не павінна быць на складах да пачатку работ па ўборцы. Трэба, каб у час уборкі ўсе машыны максымальна былі загружаны на рабоце. Работа на машынах павінна праводзіцца пазьменна. Так як уборачныя машыны нераўнамерна разьмешчаны паміж калгасамі, а ў некагорых калгасах машын зусім і няма, неабходна ў мэтах поўнага скарыстаньня машын на рабоце, арганізаваць дапамогу калгаса калгасу і саўгаса калгасу. Для гэтага неабходна адпаведным раённым арганізацыям скласьці каляндарныя пляны выкарыстаньня ўсіх уборачных машын саўгасаў і калгасаў.

У сувязі з тым, што ў мінулым годзе мелі месца выпадкі паломак і прастояў машын ад нядбайных да іх адносін і няўменьня на іх працаваць, неабходна ва ўсіх раёнах правесьці да пачатку ўборачных работ кароткатэрміновыя курсы калгасьнікаў. Трэба выгнаць абязьлічку і чаргаваньне працы на машынах, неабходна павесьці рашучую барацьбу з нядбайнымі адносінамі да машыны. Вялікае значэньне ў час уборкі хлябоў і іншых культур мае транспарт. Таму ўсе калгасы павінны сваячасова паклапаціцца і к пачатку ўборкі прывесці ў поўную гатоўнасьць увесь транспарт.

Праўленьням калгасаў трэба загадзя дагаварыцца з загатоўчымі арганізацыямі аб пунктах здачы закантрактаванай прадукцыі з тым, каб зараз-жа ў час уборкі магчыма было здаваць прадукцыю непасрэдна на пункт, скарачаючы гэтым самым непатрэбныя перавозкі. Калгасы павінны паказаць бальшавіцкія прыклады ня толькі ў правядзеньні догляду за палямі, уборцы ўраджаю, а і сваячасовай і поўнай здачай (продажу) дзяржаве таварнай прадукцыі.

Вялікае значэньне мае пытаньне забясьпячэньня памяшканьнем усяго ўраджаю і асабліва насенных і фуражных фондаў. У кожным калгасе павінны быць намечаны і адведзены памяшканьні і наладжан вучот і захоўваньне складзенага ў гэтых памяшканьнях ураджаю. У час уборкі неабходна ўстанавіць строгую каляндарную чарговасьць усіх работ. Побач з іншымі трэба ўдзяліць увагу апрацоўцы папару і малацьбе.

Усе работы па апрацоўцы, змаганьні са шкоднікамі сельска-гаспадарчых расьлін, полцы, сенакашэньню, сіласаваньню, уборцы збожжа, тэхнічных і прапашных культур—павінны быць абавязкова праведзены на зьдзельшчыну. На ўсіх ас-



Калгасьнік-ударнік за работай у полі.

ноўных работах па ўборцы, абмалоту і пасеву павінна прымяняцца брыгадная сыстэма. Кожная брыгада павінна мець пэўныя заданьні і тэрмін выкананьня работ. Неабходна наладзіць ва ўсіх калгасах улік работы ў працаднёх. Патрэбна ўлічваць ня толькі колькасьць працы, а і якасьць яе. Трэба шырока разгарнуць сацыялістычныя мэтады працы, як сацспаборніцтва і ўдарніцтва. У кожным калгасе павінны быць вылучаны прэміяльныя фонды для прэміраваньня калгасьнікаў-ударнікаў, добра выконваючых работу.

У мэтах поўнага выкарыстаньня ўсяго налічча працоўнай сілы, якая маецца ў калгасе і асабліва жаночай, трэба арганізаваць дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі і агульнае харчаваньне.

У час уборачнай кампаніі прыдзецца весьці аднача́сова некалькі работ. Таму асаблівае значэньне мае складаньне рабочых плянаў уборкі, у якіх павінны быць указаны аб'ём работы, тэрміны выкананьня, нормы выпрацоўкі.

Трэба памятаваць, што ўборачная кампанія павінна замацаваць посьпехі пасеўнай і праходзіць пад лёзунгам шырокага прыліву бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы. Кулак у час уборкі павядзе самую рашучую барацьбу з калгасамі, ён будзе старацца падарваць працоўную дысцыпліну ў калгасах і гэтым самым дабівацца пагібелі часткі калгаснага ўраджаю і г. д. Гэтай рабоце павінен быць дан самы рашучы адпор. У час работы не паслабляць, а, наадварот, пасіліць работу з беднатой і культасьветную работу ў полі ў час перапынку. Неабходна, пад кіраўніцтвам партыйных ячэек і сельсаветаў, шырока разьвіць самадзейнасьць усіх калгасных мас і ў першую чаргу яго актыву.

Баявымі тэмпамі за бальшавіцкую ўборачную кампанію!

Калгаснікі-ўдарнікі, наперад!

# Аб доглядзе пасеваў, папарнай і ўборачнай кампаніі

## Усім калгассаюзам і праўленьням калгасаў

У мэтах забясьпячэньня пасьпяховага выкананьня ўборкі ўраджаю ў калгасах у 1931 годзе, праўленьне Белкалгасцэнтру прапануе:

### Догляд пасеваў

Калгассюзам і калгасам правесьці:

1. Трохразовае поліва гародаў.

2. Двухразовае поліва караньплодаў, насеньнікаў лугавых траў.

3. Трохразовую прапашку караньплодаў і двухразовую асыпку бульбы.

4. Двухразовае прарэджваньне караньплодаў. Першае прарэджваньне зрабіць з паяўленьнем двух лісткоў з працягам ня больш 5-7 дзён.

5. Пры стварэньні ў часе ўсходу на пасевах ільну кары, абавязкова правесьці баранаваньне затылкам бараны ці пракатваньне кальчатым катком.

6. На працягу лета абавязкова правесьці ня менш аднаго разу поліва на ўсёй плошчы пасеву ільну, робячы гэта ў часе даўжыні каліва 10—18 сантымэтраў (2-4 вяршкі) і пры сярэдняй вільготнасьці глебы.

### Падрыхтоўка папару

Правесьці першае ворыва чыстага папару не позьней 15 чэрвеня і правесьці двух-трохразовае баранаваньне папару ў залежнасьці ад засьмечанасьці пустазельлем.

Выканаць пры ворыве папару поўнасьцю заданьне па вапнаваньні пад азімыя.

### Стварэньне кармовай базы

Выканаць поўнасьцю заданьне па павярховым паляпшэньні сенажаці: зьнішчэньне хмызьнякоў, куп'я, пустазельля, баранаваньне заліўных і заімшэлых сенажацяй, расчыстка канаў і спуск вады. Устанавіць у кожным раёне і калгасе пэўныя тэрміны — пачатак і канец работы па скошваньні сенажаці і траў. Каб забясьпечыць поўную і добраякасную ўборку траў і сенажацяй і дабіцца зьняцьця двух ураджаяў з сенажацяй і атрыманьня добраякаснага корму, уборку сенажацяй праводзіць у пэрыяд красаваньня. Уборку натуральных сенажацяй правесьці на працягу 15—20 дзён, а сеяных траў— 10 дзён. Наяўныя сенакасілкі поўнасьцю нагрузіць работай. Мінімальная нагрузка на адну конную сенакасілку ў дзень— 6 гэктараў. Устанавіць цьвёрдыя каляндарныя пляны ўборкі сенажаці і траў і арганізаваць дапамогу касілкамі адных калгасаў другім з тым, каб касілкі ўвесь час уборкі былі поўнасьцю нагружаны. Стварыць спэцыяльныя брыгады па ўборцы сенажаці і траў.

Выканаць поўнасьцю заданьне па рамонце старых і пабудове новых сіласных вежаў, траншэй і ям не пазьней 1 ліпеня. Засіласаваць вызначаную па пляне сіласную масу не пазьней 15 кастрычніка. Калгасцэнтр БССР зварачае ўвагу калгасаюзаў і калгасаў, што плянавыя заданьні па сіласаваньні зьяўляюцца мінімальнымі, таму ў мэтах павялічэньня кармовых запасаў ужыць усе захады да перавыкананьня заданьняў. Не пазьней 1 чэрвеня вылучыць у кожным калгасе члена праўленьня, які адказвае за сваячасовае і поўнае выкананьне програмы ўборкі сена, траў і сіласаваньня і забясьпячэньня жывёлы кармамі на ўвесь час стойлавага і пашавага пэрыяду. Абавязаць калгассаюзы і калгасы звыш кармовых фондаў стварыць недатыкальныя запасы грубых кармоў ня менш 15 проц. гадавой патрэбы.

Канкрэтныя пляны патрэбнасьці кармоў па кожным калгасе і браніяваных фондаў павінны быць складзены ва ўсіх калгасах да 15 чэрвеня.

## Арганізацыя ўборкі ўраджаю

Абавязаць калгассаюзы і калгасы ўборку ўраджаю правесьці ў максымальна кароткі тэрмін. Устанавіць наступны працяг уборкі розьных культур у калгасах:

| | |
|---|---|
| азімыя. . . . . . . . | 10 дзён |
| яравыя збожжавыя. . . | 15—20 „ |
| церабленьне ільну . . . . | 15 „ |
| расьсьціл, сушка і пад'ём ільну | 15 „ |
| уборка гародніны . . . . | 20 „ |
| уборка бульбы і караньплодаў. . . . . . . . | 25 „ |
| абмалот азімых для насеньня да 15-VIII. | |

Для поўнага скарыстаньня машын устанавіць наступную працяжнасьць працы і нагрузку:

| | у МТС і калгасах гадз. у суткі ў сярэднім | Нагрузка на 1 машыну ў суткі ў сярэднім |
|---|---|---|
| Трактар „Інтэрнацыянал" араць . . . . . | 21 гадз. | 6 гэкт. |
| Трактар „Фордзон-пуцілавец". . . . | 21 „ | 5 „ |
| Стацыянарныя рухавікі і трактары на малацьбе. | 21 „ | — „ |
| Сенакасілкі трактарныя. | 16 „ | 10 „ |
| Жнявяркі і снапавязалкі трактарныя . . . | 12 „ | 9 „ |
| Жнявяркі і снапавязалкі конныя. . . . . | 12 „ | 6 „ |
| Ільнацерабілкі трактарныя . . . . . | 13 „ | 3 „ |
| Ільнацерабілкі конныя . | 13 „ | 1,6 „ |
| Трактарныя бульбакапалкі. . . . . | 12 „ | 2 „ |
| Конныя бульбакапалкі . | 12 „ | 1,3 „ |

Абавязаць калгассаюзы і калгасы на падставе норм выпрацоўкі Калгасцэнтру і вопыту лепшых калгасаў па ўсіх відах работы па доглядзе пасеваў і ўборцы ўраджаю ўстанавіць нормы выпрацоўкі, якія і палажыць у аснову пры складаньні рабочых плянаў у калгасах і раённых плянаў уборачнай кампаніі, улічваючы пры гэтым, што нормы выпрацоўкі Калгасцэнтру зьяўляюцца мінімальнымі. Пры складаньні раённых плянаў уборкі і рабочых плянаў у калгасах устанавіць цьвёрдыя каляндарныя пляны пачатку і канца работ. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на парадак і час правядзеньня работ. Улічыць супаданьне паасобных работ, выявіць напружаныя пэрыяды і адпаведна гэтаму вызначыць такі парадак арганізацыі работ, расстаноўку рабочай і цягавай сілы, якія-б цалкам забясьпечылі сваячасовае выкананьне работ.

## Уборка збожжавых і траў

Пры ўборцы збожжавых і траў, як правіла, устанавіць:

1. Ні ў якім разе не чакаць, пакуль збожжа пасьпее на ўсіх палёх калгасу.
2. Бесьперапынна правяраць сьпеласьць збожжа на асобных палёх калгасу.
3. Ні ў якім разе не дапускаць перасьпеласьці збожжа і траў, а арганізаваць уборку па меры пасьпяваньня. Канюшына, другі ўкос якое пакідаецца на насеньне, першы ўкос убіраецца да пачатку красаваньня.
4. Раней убіраць збожжа, якое лёгка асыпаецца, а потым з моцна сядзячым зернем у коласе.
5. У мэтах зьмяншэньня страт раней пракасіць праходы для снопавязалак і жнявярак, акасіць вуглы, каб не затрымаць машыны для ўборкі і не таптаць збожжа.
6. Не дапускаць, каб скошанае збожжа заставалася на палёх у валках, ня зьвязаным, а ў снапох—ня складзеным у копы або ў сьцірты больш 2-х дзён.
7. Пры пагрузцы збожжа на вазы і разгрузцы снапоў скідаць асьцярожна і гэтым самым не дапускаць асыпаньня зярнят.

## Уборка ільну

1. Церабленьне (выбарка ільну) праводзіць толькі ў часе жоўтай сьпеласьці, калі галоўкі пачнуць жаўцець і 1-3 лісткі зьнізу асыпаюцца.
2. У мачанцовых раёнах праз 1-2 дні пасьля церабленьня абрэзаць галоўкі і салому замачыць у капанцы (мачылы), а ў раёнах сланцовых вышчараблены лён добра прасушыць на полі ў шатрох (козлах) да канчатковай сьпеласьці насеньня і, зьвёзшы яго ў закрытае па-

мяшканьне, абчасаць ці абмалаціць галоўкі і разаслаць.

3. У тых раёнах, дзе ільназаводы будуць весьці пераапрацоўку ільнасаломы, пасьля абмалоту галовак неадкладна салому накіраваць заводу, а пры немагчымасьці зрабіць гэта адразу, злажыць яе ў закрытых ад дажджу і сьнегу памяшканьнях, пры адсутнасьці-ж іх—у стагі, згодна спэцыяльнай інструкцыі па кладцы саломы ільну.

4. Расьціл саломы ільну правесьці не пазьней 20 верасьня з тым, каб трасту падняць са сьцелішча не пазьней 1 лістапада.

5. Месцы для расьцілу выбіраць роўныя і па магчымасьці плошчы сенажацяй.

6. Гушчыню расьцілу рабіць з разьліку з аднаго гэктара саломы на $1^{1}/_{4}$ гэкт. сьцелішча ў сярэднім.

7. За разасланай саломай ільну ўстанавіць суровы нагляд, каб яна не пераляжала на сьцелішчы, ужыўшы абавязкова наступнае: пасьля двух тыдняў высланую салому перавярнуць на другі бок і ў залежнасьці ад надвор'я пачынаючы з чацьвертага тыдню ад часу расьцілу, браць пробы трасты прыкладна праз кожныя 7 дзён. Пробы трэба браць у розных мясцох сьцелішча, невялікімі пучкамі, вагой каля аднаго кілё. Узятую пробу трэба прасушыць і зьмяць і, калі кастрыца ад валакна будзе лёгка аддзяляцца, дык лён неадкладна трэба падняць са сьцелішча, прасушыць яго ў бабках і зьвесьці ў закрытае ад дажджу і сьнегу памяшканьне з наступнай пераапрацоўкай трасты на месцы або здачай яе бліжэйшаму ільназаводу.

8. Стварыць асобныя брыгады па доглядзе і ўборцы ільну з тым, каб да пачатку кожнага пэрыяду работы даць ім цьвёрдае заданьне, каб яны былі дэтальна прапрацаваны на кожнай брыгадзе і ўстаноўлен разьмер работы для кожнага калгасьніка.

Для выкананьня работ па ільне ў максымальнай меры выкарыстаць працу



Веснавая сяўба: чытка газэт у часе перапынку ў калгасе.

жанчын. Для павышэньня зацікаўленасьці калгасьнікаў і калгасьніц у лепшай арганізацыі і правядзеньні работы па ільнаводзтве, вылучыць спэцыяльныя прэміяльныя фонды ў калгасах.

### Уборка бульбы і караньплодаў

Абавязкова праводзіць пераворваньне бульбы для таго, каб уся бульба была поўнасьцю выбрана з зямлі. Пры ўборцы бульбы і караньплодаў асабівую ўвагу зьвярнуць на ўважлівую ачыстку бульбы і караньплодаў ад бацьвіньня і зямлі, арганізаваць адсартаваньне бульбы пры яе захаваньні. Ссыпку бульбы і караньплодаў у капцы і скляпы рабіць у сухім выглядзе, добра прыкрываючы капцы (саломай, лісьцем і зямлёю).

### Вызначэньне насенных пасеваў і малацьба збожжавых

Для стварэньня насеннага фонду ў калгасах на восень 1931 г. і весну 1932 г. і забясьпячэньне пашырэньня пасеваў гародных, кармовых і тэхнічных культур:

1. Выявіць сартовыя і палепшаныя пасевы збожжавых і тэхнічных культур і даць да 1 чэрвеня заяўкі кантрольна-насенным станцыям на правядзеньне апрабацыі.

2. Вылучыць вучасткі сартовых і палепшаных пасеваў збожжавых і тэхнічных культур, правесьці асобны абмалот гэтых пасеваў, сҫыпаць насенныя фонды для патрэб калгасу і лішкі забраніяваць для стварэньня раённага насеннага фонду.

3. Лубін, лугавыя травы, азімую віку і беспакроўныя пасевы сэрадэлі па ўсіх калгасах поўнасьцю пакінуць на насеньне. Насеньне азімай вікі поўнасьцю скарыстаць для азімай сяўбы 1931 году.

4. Палепшаныя (аднатыпныя) пасевы яравой вікі поўнасьцю пакінуць на насеньне. Ад звычайных пасеваў вікі пакінуць на насеньне ня менш 20 проц. агульнай плошчы.

5. З першага ўкосу чырвонай канюшыны пакінуць на насеньне ня менш 20 проц. ад усёй плошчы. Звыш таго, у паўднёвых і сярэдніх раёнах (там, дзе высьпявае канюшына другога ўкосу) пакінуць на насеньне канюшыну другога ўкосу ня менш 25 проц., а ў насенна-водчых калгасах пакінуць усю плошчу (сьпіс раёнаў асобна дасылаецца).

6. Насенаводчыя калгасы павінны поўнасьцю выканаць заданьне па пакіданьні на насеньне кармовых караньплодаў і кармовых культур. У іншых калгасах пры ўборцы адабраць з фуражных і спажывецкіх пасеваў высадкі ў колькасьці патрэбнай для забесьпячэньня раёнаў насеньнем. Калгассаюзам да 1 чэрвеня праверыць фактычна засеяную плошчу сартовых і палепшаных пасеваў у калгасах.

Малацьба збожжавых павінна праводзіцца непасрэдна за ўборкай. Азімыя, вызначаныя для пасеву, і ўсё гатунковае жыта абмалочваецца ў першую чаргу. Падрыхтаваць гумны і такі для складаньня снапоў у сьціrты, ачысьціўшы і зрабіўшы належны подсьціл для сьціртаў. Адначасова з малацьбою праводзіцца ачыстка і сартаваньне збожжа. Пры малацьбе і ачыстцы неабходна сачыць за тым, каб не рабілася зьмешваньня яравых і азімых культур і гатунковых са звычайнымі. Прывесьці ў парадак збожжахавальнікі, зрабіць загадзя іх дэзынфэкцыю. Правесьці пробны абмалот, пасьля чаго інфармаваць усіх калгасьнікаў аб сярэднім ураджаі з гэктара, а таксама аб мяркуемым зборы збожжа ва ўсёй гаспадарцы. Да 20 жніўня РКС павінен мець весткі пробных абмалотаў збожжавых. На кожным таку пры абмалоце ў склад брыгады павінны быць вылучаны адказныя прыёмшчыкі абмалочанага збожжа, на абавязкі якіх ускладаецца дакладны ўлік абмалочанага збожжа па гатунках. Аб колькасьці абмалочанага збожжа кожны дзень даюцца весткі ў праўленьне калгасу. Мякіна, салома і інш. адкіды старанна ўбіраюцца і складаюцца ў часе малацьбы. Па сканчэньні абмалоту на праўленьні і сходзе калгасьнікаў заслухаць вынікі абмалоту.

### Транспарт і інвэнтар

Абавязаць калгассаюзы разьмеркаваньне ўборачных машын і пры апрацоўцы прапашных культур строга ўвязаць з магчымасьцю поўнага выкары-

станьня апошніх і наяўнасьцю працоўнай сілы ў калгасах, забясьпечыўшы ў першую чаргу тыя калгасы, дзе адчуваецца недахват працоўнай сілы. Да 1 чэрвеня калгассаюзам разьмеркаваць паміж калгасамі ўсе ўборачныя, прапалачныя машыны і транспартны інвэнтар (калёсы і збрую). Абавязаць калгасы забраць вызначаны ім інвэнтар са складу не пазьней 10 чэрвеня. Неразьмеркаваныя і някупленыя са складу ўборачныя машыны і калёсы да вызначанага тэрміну будуць перакінуты ў іншыя раёны. Абавязаць праўленьні калгасаў адрамантаваць да 10 чэрвеня гужавы транспарт (калёсы і збрую) і с.-г. інвэнтар, загатовіць патрэбную колькасьць вяровак, і пастронкаў, скарыстоўваючы ўнутраныя рэсурсы калгасаў і паасобных калгасьнікаў. Выявіць увесь с.-г. інвэнтар, патрабуючы рамонту і неадкладна пачаць рамонт. Калгасы, якія ня маюць сваіх кузьняў, павінны дагаварыцца з калгассаюзамі аб месцы і тэрміне рамонту іх інвэнтару. Праўленьням калгасаў устанавіць патрэбнасьць у рамонтных матар'ялах і запасных частках, маючы на ўвазе максымальнае выкарыстаньне ўнутраных рэсурсаў. Кузьні калгасаў перавесьці на трохзьменную работу. Вылучыць у кожным калгасе асобу, адказную за добраякаснае і сваячасовае сканчэньне рамонту інвэнтару.

### Арганізацыя працы ў часе ўборкі

Уборачную кампанію праводзіць на аснове шырокага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва як паміж калгасамі, так і ўнутры калгасаў паміж брыгадамі, групамі і калгасьнікамі, а таксама паміж калгасамі і саўгасамі, арганізаваўшы ўдарныя брыгады і г. д. Асноўнымі ўмовамі для сацспаборніцтва могуць зьяўляцца: а) правільны і сваячасовы догляд пасеваў; б) хуткасьць уборкі; в) якасьць уборкі; г) хуткасьць і якасьць малацьбы і г. д. Перад пачаткам работ абавязкова робіцца праверка гатоўнасьці калгасу да ўборкі і малацьбы. Брыгадзірам правяраецца гатоўнасьць сваёй брыгады, праўленьнем—гатоўнасьць усіх брыгад. Усе работы па доглядзе пасеваў, уборцы збожжавых і тэхнічных, прапашных, траў і сена, павінны быць арганізаваны зьдзельнай з ацэнкай у працаднёх. У мэтах устанаўленьня адказнасьці за якасьць работы, якая выконваецца, і павышэньня ўраджайнасьці ўстанавіць, як цьвёрдае правіла, брыгадзір і асноўная маса калгасьнікаў брыгады апрацоўваюць або ўбіраюць замацаваныя за брыгадай вучасткі, пачынаючы ад пасеву або прапалкі і да канца ўборкі, брыгада, як правіла, не распускаецца, а павялічваецца або памяншаецца ў залежнасьці ад патрэб у тэй ці іншай рабоце. Брыгадзіры і брыгада нясуць адказнасьць за сваячасовую апрацоўку, якасьць апрацоўкі і страты пры ўборцы ўраджаю. Парадак уборкі і патрэбную колькасьць работ праўленьне калгасу абавязана даць брыгадзірам да пачатку работ. Замацаваны вучастак за брыгадай у выпадку патрэбы разьбіваецца паміж групамі калгасьнікаў брыгады. Групы калгасьнікаў расстанаўляюцца на работу такім чынам, каб пры зьдзельнай працы была магчымасьць улічыць колькасьць праведзенай працы кожным калгасьнікам і ацаніць яе ў працаднёх. Тэрміны, устаноўленыя праўленьнем і абгавораныя і зацьверджаныя агульным сходам для правядзеньня работ, абавязковы для калгасьнікаў. Калі работы па ўборцы ўраджаю зацягваюцца з-за нявыхаду на работу і дрэннай працоўнай дысцыпліны, праўленьне калгасу абавязана прыцягнуць на работу для ліквідацыі прарываў ударныя брыгады кальгасьнікаў, ужо выканаўшыя сваё заданьне, прэміюючы іх павышэньнем ацэнак у працаднёх на 10-25 проц. і паніжаць на 10-25 проц. працадні, якія прылічваюцца калгасьнікам, што зрываюць работу па доглядзе пасеваў і ўборцы. Па сканчэньні работы праўленьне калгасу робіць прыёмку работ ад брыгады. Кожны калгасьнік абавязан выканаць даручаную яму работу добраякасна. Брыгадзіры-групаводы абавязаны сачыць за якасьцю праведзенай работы, кальгасьнікі па патрабаваньні брыгадзіра абавязаны паправіць дрэнную работу. У выпадку неабходнасьці брыгадзір можа панізіць ацэнку ў працаднёх групам за дрэнн

выкананьне работы і паставіць на выкананьне работы лепшыя групы з павышэньнем ім ацэнкі за кошт дрэннай групы ад 10 да 25 проц. Пры дрэннай якасьці работы і невыкананьні норм выпрацоўкі брыгадзір ставіць пытаньне аб спагнаньні ў адносінах такіх калгасьнікаў і груп на абгаварэньне брыгады і паведамляе праўленьню калгасу.

У мэтах своечасовай апрацоўкі і ўборкі ўраджаю для кожнай калгаснай сям'і ўстанаўляецца мінімальная колькасьць працадзён, абавязковая для выкананьня ў пэрыяд догляду пасеваў і ўборкі ўраджаю. У мэтах найбольш поўнага выкарыстаньня працы жанчын-калгасьніц і ўцягненьня іх у калгасную вытворчасьць, асабліва жанчын з малымі дзецьмі, кожны калгас павінен арганізаваць догляд дзяцей шляхам стварэньня пастаянных або сэзонных ясьляй, або прасьцейшы догляд дзяцей непасрэдна на мясцох правядзеньня работ. Абавязаць калгассаюзы і калгасы да 1 чэрвеня скласьці балянс рабочай і цягавай сілы на час уборкі ўраджаю, улічваючы пры гэтым мінімальныя патрэбы рабочай і цягавай сілы ў іншых галінах гаспадаркі. На падставе балянсу ўстанавіць лішак і нехват рабочай і цягавай сілы ў часе ўборкі і намеціць узаемную дапамогу людзьмі і машынамі аднаго калгасу другому. Рабочы плян у калгах па ўборцы ўраджаю абавязкова павінен быць складзен, прапрацован на вытворчай нарадзе і па брыгадах і даведзен да кожнага калгасьніка не пазьней як за тыдзень да пачатку ўборкі.

## Кадры

У мэтах падрыхтоўкі калгасьнікаў для работы на складаных уборачных і малагарных машынах, арганізаваць у кожным раёне ў чэрвені месяцы 10-дзённыя курсы. Колькасьць курсантаў устанавіць па колькасьці машын, аднак, ня менш як па адным калгасьніку з кожнага калгасу. Арганізаваць таксама 10-дзённыя курсы брыгадзіраў уборачных брыгад па 3-4 чал. з кожнага калгасу, у залежнасьці ад разьмераў апошняга. У раёнах МТС арганізацыю курсаў ускласьці на дырэктароў МТС, а ў іншых раёнах—на калгассаюзы. Абавязаць калгассаюзы і дырэктароў МТС забясьпечыць курсы выкладчыкамі і адпаведнымі с.-г. машынамі для правядзеньня практычных заняткаў і забясьпечыць поўнае ўкамплектаваньне курсаў калгасьнікамі.

## Ахова ад агню

Каб унікнуць пажару ад неасьцярожнага абыходжаньня з агнём, а таксама ад падпалаў клясавага ворага, праўленьні калгасаў абавязаны: адрамантаваць пажарны абоз, а там, дзе яго няма, супольна з сельсаветам аранізаваць, прапрацаваць разам з сельсаветам проціпажарныя мерапрыемствы, вылучыць дзяжурных людзей для назіраньня і аховы. Забараніць курэньне на таку і на пэўнай адлегласьці раскладаць агонь; ужываць меры спагнаньня за парушэньне проціпажарных мер. Мець на таках пастаянны запас вады. У мясцох вялікага скапленьня збожжа ўстанавіць пастаянныя дзяжурствы проціпажарнай аховы, умовіўшыся аб гэтым з сельсаветам. Праўленьне калгасу павінна ўжыць крокі да стварэньня пажарных дружын з калгасьнікаў. Арганізацыя і назіраньне за правядзеньнем у жыцьцё проціпажарных мерапрыемстваў ускладаецца асабіста на старшыню калгасу або на спэцыяльна вылучанага члена праўленьня.

Леташняя ўборачная кампанія мела рад сур'ёзьнейшых недахопаў у рабоце як паасобных калгасаў, так і калгасных аб'яднаньняў. Надыходзячая ўборачная кампанія разгортваецца пры наяўнасьці ўжо набытага вопыту. Таму павінны быць павышаны патрабаваньні большай арганізаванасьці, выразнасьці работы і адказнасьці за выкананьне задач, якія ўскладаюцца як у адносінах да ўсіх калгасаў, груп калгасьнікаў, кожнага калгасьніка, так і калгасных аб'яднаньняў. Усе калгасьнікі павінны выразна ўяўляць выключную важнасьць надыходзячай уборачнай кампаніі ў справе ўзмацненьня калгаснага руху і не забываць аб тым, што клясавы вораг — кулак імкнецца прарваць паасобныя вучасткі сацыялістычнага будаўніцтва. Лепшым правядзеньнем уборачнай кампаніі замацуем калгасы і дамо рашучы адпор клясаваму ворагу—кулацтву.

# Вышэй тэмпы пасеўнай!

**Зараз-жа ліквідаваць маючыяся прарывы на пасеўным фронце. Забясьпечыць опэрацыйным кіраўніцтвам сяўбу. Шырэй соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў перавыкананьні плянаў другой калгаснай.**

## Саўгасы, калгасы, МТС, брыгады, уключайцеся ў конкурс на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы

Згодна пастановы ЦК КП(б)Б—Агітмасавы аддзел і Культпроп ЦК і газэта „Зьвязда“ праводзяць агляд разгортваньня сяўбы і сацспаборніцтва, у сувязі з правядзеньнем веснавой сяўбы, паміж калгасамі, саўгасамі, раёнамі, МТС і ўнутры калгасаў, саўгасаў і МТС, а таксама паміж раённымі газэтамі на правядзеньне лепшай работы па арганізацыі мас вакол пасеўкампаніі.

Устанаўліваюцца пераходныя сьцягі імя ЦК КП(б)Б, ЦВК, Калгасцэнтру, ЦСПСБ, цэнтральных газэт і паасобных прафсаюзаў, а таксама арганізоўваецца прэміяваньне лепшых ударнікаў, паасобных ударных калгасных і саўгасных брыгад, калгасаў, саўгасаў, МТС і раёнаў, правёўшых найбольш арганізавана, пасьпяхова і ў максымальна скарочаны тэрмін веснавую сяўбу.

Нізавыя партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі павінны зараз-жа разгарнуць работу за ўключэньне ўсіх калгасаў, саўгасаў і МТС у правадзімы абгляд. Вакол абгляду трэба стварыць належную грамадзкую думку сярод калгасьнікаў і рабочых саўгасаў і МТС.

Веснавая сяўба павінна быць праведзена ў максымальна-скарочаныя тэрміны з перавыкананьнем намечаных плянаў.

### УМОВЫ КОНКУРСУ

1. Выкананьне поўнасцю і ў вызначаны тэрмін пляну сяўбы.

2. Найбольш поўнае выкананьне аграмерапрыемстваў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці (ачыстка насеньня, пасеў гатунковым насеньнем, радавы пасеў, выкананьне пляну тарфаваньня і вапнаваньня, зьнішчэньне сарнякоў і інш.).

3. Стварэньне кармовай базы (выкананьне пляну пасеву траў, кораньплодаў і сіласных культур, паляпшэньне сенажаці і падрыхтоўка да сіласаваньня).

4. Правільная арганізацыя працы і пераход на зьдзельшчыну, а ў саўгасах і МТС—на зьдзельшчыну і гаспадарчы разрахунак.

5. Разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва (заключэньне сацдагавароў паміж паасобнымі брыгадамі, калгасамі, МТС, саўгасамі і раёну з раёнам і арганізацыя грамадзкага кантролю за выкананьнем дагавароў, максымальны ахоп ударніцтвам, арганізацыя грамадзкага буксіру над адстаючымі калгасамі, саўгасамі, МТС і раёнамі ў цэлым і г. д.).

6. Выкананьне плянаў кантрактацыі.

7. Выкананьне заданьняў па спэцыялізацыі раёнаў і паасобных саўгасаў і калгасаў.

8. На аснове пасьпяховага правядзеньня сяўбы, правільнай арганізацыі працы і пастаноўкі масавай работы сярод аднаасобнікаў дабіцца максымальнага прыліву ў калгасы, кіруючыся ўстаноўкай, што ў часе веснавой сяўбы павінна быць аб'яднана ў калгасы ў раёнах дзейнасьці МТС ня менш 50 проц. і ў астатніх раёнах—30 проц. наяўнасьці усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак раёну.

Акрамя гэтых агульных патрабаваньняў, неабходна дабіцца па МТС: а) ліквідацыі абязьлічкі, б) максымальнай нагрузкі на трактар пры 21-гадзінным рабочым дню ў суткі, захоўваючы шляхам патрэбнага ўходу за трактарам яго спраўнасьць; в) максымальнай эканоміі гаручага; г) дакладнае выкананьне дагавароў, заключаемых з калгасамі.

Па калгасах і саўгасах: а) найбольшай выпрацоўкі ў часе пахаці і севу на цягавую сілу, пры захове поўнай працаздольнасьці яе; б) рацыянальнага скарыстаньня с.-г. інвэнтару, транспарту і збруі; в) арганізацыі ўзаемнай дапамогі паміж калгасамі, саўгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі; г) больш поўнага культурна - бытавога абслугоўваньня ў часе сяўбы рабочых саўгасаў калгасьнікаў і акаляючых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (ясьлі, пляцоўкі, сады, грамадзкае харчаваньне ў калгасах і саўгасах).

**Па калгасах:** лепшага арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў, поўнага абагуленьня сродкаў вытворчасьці, згодна статуту, і стварэньня непадзельных капіталаў.

**Раённаму друку:** а) найлепшага асьвятленьня ходу сяўбы з завастрэньнем увагі на галоўных вучастках свайго раёну; б) арганізацыі масавай работы, якая спрыяе разгортваньню сацспаборніцтва і пасьпяховаму правядзеньню сяўбы.

**Прафсаюзным арганізацыям раёнаў:** а) арганізацыі дапамогі калгасам у разгортваньні сацспаборніцтва; б) лепшай пастаноўкі масавай работы з членамі прафсаюзаў пад лёзунгам—член прафсаюзу — застрэльшчык калектывізацыі; в) арганізацыі непасрэднай дапамогі ў правядзеньні сяўбы, выкарыстоўваючы выхадныя дні, асабліва арганізацыі грамадзкага кантролю і дапамогі прыгарадным гаспадаркам.

Для кіраўніцтва аглядам у раёнах ствараюцца штабы з прадстаўнікоў РК КП(б)Б, РВК, райкалгассаюзу, райпрафбюро, РК ЛКСМ, раённай газэты і рай КК-РСІ.

Пры цэнтральным штабе, акрамя ўстанаўленьня пераходных сьцягаў, згодна пастановы сакратарыяту, ствараецца прэміяльны фонд забясьпечваючы прэміраваньне лепшых калгасаў, саўгасаў і раёнаў, пасьпяхова скончыўшых сяўбу.

У мэтах пастаноўкі вучоту ходу сяўбы, раённыя штабы праз кожныя 5 дзён (15, 20 і г. д.) даюць зводкі ў цэнтральны штаб аб ходзе разгортваньня агляду па адрасе: Менск, рэдакцыя газэты „Зьвязда“ для штабу агляду.



Сяўба ў разгары ў калгасе.

# ВЫПРАВІЦЬ НЕДАХОПЫ НА ХАДУ

Перад саўгасамі Сьвінавода вялізарныя задачы ў час веснавой сяўбы, тым больш, што амаль патройваецца пасеўная плошча мінулага году, каля 2-х дзесяткаў саўгасаў уступаюць упяршыню ў сяўбу. Стварэньне ўстойлівай кармовай базы, задача поўнага забесьпячэньня выпасамі грубымі і сакавітымі кармамі—цэнтральная палітычна-гаспадарчая задача пасеўнай у Сьвінсаўгасах. Вырашэньне гэтай задачы створыць моцны падмурак, базу, фундамэнт, гарантыю для вырашэньня ня толькі прамфінпляну 1931 году, але забясьпечыць і посьпех 1932 году. Гэтыя задачы мажліва поўнасьцю вырашыць толькі на аснове генэральнай лініі партыі, пры рашучай бязьлітаснай барацьбе з усялякімі адхіленьнямі, правым апартунізмам у першую чаргу, як галоўнай небясьпекай і прымірэнцтвам да іх.

Спозьнены пачатак севу, скарочаныя ў сувязі з гэтым тэрміны сяўбы, зусім па-новаму ставіць пытаньне аб тэмпах сяўбы, патрабуе на хаду сапраўды паўдаркаму выпраўленьня ўсіх хібаў.

Праведзеная праверка гатоўнасьці шэрагу саўгасаў да сяўбы паказвае разам з станоўчымі бакамі шэраг буйнейшых недахопаў, якія на хаду павінны быць ліквідаваны.

Задача пашырэньня пасеўнай плошчы была, ёсьць і будзе аднэй з асноўных цэнтральных задач. Межамі тут ня можа быць плян, межамі можа быць толькі падваеньне і патраеньне яго на колькі хопіць на гэта мабілізуемых унутраных рэсурсаў зямельных плошчаў, сродкаў вытворчасьці і рэсурсаў раёнаў. Прагляд асобных саўгасаў паказвае, што ў іх ёсьць імкненьні яўна апартуністычныя. Прыкладам зьяўляецца хаця-б Носавічы і Васільлеўск, якія пайшлі па лініі найменшага супраціўленьня замест раскарчоўкі кустарнікаў, якія павінны быць распаханымі імкненьне пашырыцца за лік новых прыразаемых вучасткаў. Пашырэньне пасеву за рахунак залежаў, кустарнікаў, мала прадукцыйных сенажацяй, вырубак можа і павінна быць скарыстана ў значнай колькасьці саўгасаў. На апрацоўку гэтай зямлі ня толькі могуць, але ва што-б та ні стала павінны быць мабілізаваны ўсе нашыя саўгасы.

На пашырэньне пасеваў павінны быць выкарыстаны ў максымуме ўсе прырэзкі. Аднак мала засеяць усю плошчу, важна засеяць яе ў максымуме асноўнымі кармавымі культурамі, бульбай, вікай і інш. Плошчы пад гэтымі культурамі могуць толькі павялічвацца, а не зьмяншацца.

Таму трэба біць трывогу, што выдадзеныя нарады Белкаапсаюзам ня выконваюцца. Зусім нецярпімым, злачынным зьяўляецца факт із'яцьця бульбы с сьвінсаўгасаў некаторымі раёнамі (Сьмілавіцкі). Шмат дырэктароў з Чэрыкава, Крычава, Стара-Беліцы і інш. крычаць аб тым, што кармавых культур у саўгасе яшчэ няма. Толькі Касьцюковіцкі раён гарантуе поўнае здавальненьне бульбай новых саўгасаў.

У гэтым пытаньні ад раёнаў патрабуецца 100 проц. выкананьне і перавыкананьне нарадаў. Саўгасы павінны спыніць самацёчныя настроі, арганізаваць уласныя брыгады па нарыхтоўцы бульбы, правесьці гэту работу сапраўды ўдарным парадкам, мабілізуючы ў першую чаргу свае ўласныя рэсурсы. Скарачэньне хаця-б аднаго гектару бульбы павінна разглядацца, як зрыў нашых мерапрыемстваў на стварэньне кармавой базы.

Аднак, мала толькі колькаснага засеву кармавых культур. Трэба паставіць адразу, побач з колькаснай задачай—задачы выкананьня якасных паказчыкаў работ, задачы барацьбы за ўраджай, за яго поўнае захаваньне і поўную рэалізацыю. Урок мінулага году, калі мы мелі надзвычайна нізкія ўраджаі, няўборку, згніваньне ў асобных выпадках—павінны быць поўнасьцю ўлічаны ўжо зараз.

Ці стаіць гэта задача сапраўды ў цэнтры ўвагі трохкутніка, тэхнічнага пэрсаналу, ударнікаў і ўсіх рабочых саўгасаў? Трэба сказаць, што дырэктывы партыі і тут у агромністай колькасьці саўгасаў выконваюцца недапушчальна дрэнна. Толькі гэтым можна тлумачыць, што шэраг саўгасаў праявілі яўны сабатаж, за які трэба адказваць перад пралетар-

скім судом, як напрыклад, у вапнаваньні глебы, не мабілізавалі ўсіх угнаеньняў (гною, попелу, торфу і адкідаў) унутры саўгасаў. За гэта павінны несьці самую суровую адказнасьць і забясьпечваючыя арганізацыі і сьвінавод за тое, што толькі зараз пачалі паступаць штучныя ўгнаеньні. Яшчэ амаль зусім не паступаюць калійныя.

Вялікае значэньне ў барацьбе за ўраджай мае правільная апрацоўка глебы, сваячасовы засеў, догляд за культурамі (бульбы і кораньплодамі) якасьць работ. Гэтым ня могуць пахваліцца ўсе саўгасы. Тут непачаты край работы. У гэтым праяўляецца выразны апартунізм, выяўлены ўжо намеры некаторых моўчкі, хаваючыся за зацяжнасьць вясны, за маючыяся цяжкасьці, абыйсьці гэта пытаньне.

Барацьба за ўраджай патрабуе ад забясьпечваючых арганізацый падачы да засеву ўсяго занараджанага ўгнаеньня, правільнае выкарыстоўваньне да аднаго кілёграму штучных угнаеньняў, мабілізацыя гною, вапны, торфу і адкідаў — сваячасова добраякаснай падрыхтоўкі глебы і правядзеньня севу. З моманту севу забесьпячэньне правільнага дагляду і ўходу, асабліва за прапашнымі (полка, пульхненьне, прарэджваньне і барацьбой са шкоднікамі). Ад гэтага будзе залежыць посьпех ураджаю. З выключнай рэзкасьцю зусім па-новаму стаіць пытаньне барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці натуральных сенажацяй.

Стварэньне ўстойлівай кармовай базы патрабуе, каб на ўсёй плошчы натуральных сенажацяй былі праведзены прасьцейшыя культурна-тэхнічныя мерапрыемствы (ачыстка кустарнікаў, зрэзка карчоў, ачыстка канаў, правядзеньне баранаваньня, зборка каменьняў, угнойваньне шэрагу вучасткаў, арганізацыя правільнай пашы і інш.).

Гэта-ж задача патрабуе, каб былі праведзены ў максымальнай ступені мэліярацыйныя работы на ўсіх забалочаных плошчах.



Гароднік калгасу „Лайд Арбайт“.

Перад саўгасамі стаіць новая задача стварыць у патрэбных разьмерах выпасы. Да гэтай пары не вядзецца належнай працы ў гэтым напрамку: харчаваньне сьвіней позьняй вясной і летам патрабуе самых раньніх пасеваў віка-аўсянай мешанкі, вікі, гарохавых, аўсяна-гарохавых і азіма-жытніх выпасаў. Дзеля гэтай мэты павінны быць скарыстаны ў гэтым годзе ў максымальнай меры натуральныя сенажаці, лясныя выпасы і хмызьнякі, праводзячы на іх адпаведныя належныя палепшаньні.

Цэнтральным у выкананьні гэтых задач—гэта ўпартая барацьба за тэмпы сяўбы. Рабочыя калектывы шмат якіх саўгасаў гараць сапраўдным бальшавіцкім запалам па-ўдарнаму скончыць гэту

працу. На службу тэмпам павінен быць пастаўлен удасканалены з усімі прырэзкамі, новымі распашкамі і з скарочанымі тэрмінамі каляндарны плян. Праверка тых-жа Носавіч і др. саўгасаў паказала, што такі плян шмат дзе адсутнічае. Вярбоўка патрэбных людзей, іх палітычнае выхаваньне, максымальная напруджанасьць працы праз арыентацыю ў распрацоўцы норм на ўдарніка, паход за тэхнікай, перавод на вышэйшыя рэйкі сацспаборніцтва, забесьпячэньне максымальнай працай—усё павінна быць пастаўлена на службу бальшавіцкай сяўбы. На кожным з гэтых вучасткаў нагляддаецца прарыў.

Няма зруху ў паходзе за аўладаньне тэхнікай. Трохкутнікі амаль нічога не зрабілі, каб арганізаваць курсы, вытворчыя і цэхавыя нарады, экскурсіі, канфэрэнцыі, аўладаньне тэхнічнай літаратурай і інш. Яшчэ не разгорнута сацспаборніцтва брыгад, трактарыстаў, цэхаў. Праца трохкутнікаў у гэтым напрамку зьяўляецца нездавальняючай.

Ліквідаваць гэты прарыў, значыць справіцца з сяўбой.

Трэба арганізаваць спэцыяльны збор рабочых прапаноў на дапамогу сяўбе. Трэба мабілізаваць усе сродкі вытворчасьці, запраектаваныя ў прамфінпляне. Праверка паказвае, што забясьпечваючыя арганізацыі ня справіліся з прынятымі на сябе задачамі. На паасобных вучастках напэўна мы маем справу з яўным шкодніцтвам. Чым магчыма апраўдаць такі факт, калі ня прыбылі плугі к трактарам „Інтэрнацыянал", не завезена яшчэ ні адна бульбасажалка, няма прыцэпнага інвэнтару, нават у вызначаных зусім нязначных разьмерах. Асобныя саўгасы самі недаацэньваюць неабходнасьць максымальных тэмпаў сяўбы, таму што яшчэ не закупілі патрэбнай колькасьці коняй, не паставілі канкрэтных задач з першага дня выхаду ў поле, ня толькі забясьпечыць поўнае трохзьменнае выкарыстоўваньне трактароў і прыцэпнага інвэнтару, але і складанага конскага інвэнтару.

Правядзеньне сяўбы павінна быць неразрыўна ўвязана з пераходам на гаспадарчы разрахунак.

**Т. Аўчыньнікаў.**



Трактарная калёна ў разгар сяўбы.

# Не аддадзім пераходны сьцяг

*(Магілеўскі раён)*

Добра падрыхтаваным калгас імя 10-годзьдзя БССР выступіў у поле для правядзеньня веснавой сяўбы.

Калгас поўнасьцю ссыпаў і ачысьціў насенны матар'ял. На час сяўбы забраніраван фураж у колькасьці 1000 пуд. сена і 300 пуд. аўса. Адрамантаван увесь земляробскі інвэнтар і збруя.

Шмат сабрана хатняга попелу калгасьнікамі, які пойдзе на ўгнаеньне абагуленых палёў. Значна пашыраецца яравы клін.

Уся работа па падрыхтоўцы да сяўбы праходзіла ўдарным парадкам, а зараз шырока разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва па выкананьні намечаных плянаў сяўбы. Кожны тыдзень выдаецца ў калгасе насьценная газэта, якая раней асьвятляла ход падрыхтоўкі да сяўбы, а зараз работу ў полі.

У мінулым годзе за лепшае правядзеньне веснавой сяўбы і ўборкі калгас імя 10-годзьдзя БССР атрымаў ад райкалгассаюзу і газэты „Камунар Магілеўшчыны“ пераходны сьцяг. На адным з агульных сходаў перад выхадам у поле калгасьнікі, як адзін, заявілі:

— Правядзем і ў гэтым годзе лепш за ўсіх у раёне веснавую сяўбу. Не аддамо пераходны сьцяг імя газэты „Камунар Магілеўшчыны“!

І калгасьнікі прыкладаюць усе сілы к таму, каб не аддаць пераходны сьцяг. І не аддадуць яго, бо кожны калгасьнік з бальшавіцкай заўзятасьцю працуе на калектыўных палетках. Кожны калгасьнік змагаецца за выкананьне плянаў сяўбы.

**Модлін Гэця.**



Падрыхтоўка бульбы да севу ў калгасе.

# Змагаемся за выкананьне плянаў

*(Шклоўскі раён)*

*Калгас імя Дзяржынскага* дзякуючы пасьпяховай падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і шырокаму растлумачэньню пастаноў VI Усесаюзнага зьезду саветаў і III Усебеларускага зьезду калгасаў—на 15 красавіка меў ужо прыліў 20 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Вытворчы плян гэтага калгасу і плян веснавой сяўбы даведзены да кожнай брыгады і калгасьніка. Увесь насенны матар'ял ачышчан. Адрамантаваны земляробскі інвэнтар і неабходныя сельскагаспадарчыя машыны, прагледжана ўся збруя. На час сяўбы калгас забясьпечыў неабходнымі кармамі рабочых коняй.

*Калгас імя Сьвярдлова* арганізаваўся ў час сталінскага закліку з 36 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і адразу-ж паўдарнаму распачаў падрыхтоўку да другой бальшавіцкай вясны. Адразу-ж пасьля арганізацыі быў створаны насенны фонд і абагулена рабочая жывёла. А таксама створаны фуражны фонд на час веснавой сяўбы.

Калгас распрацаваў дасканалы плян веснавой сяўбы. Яшчэ загадзя да выхаду ў поле кожны калгасьнік ведаў сваю работу ў час веснавой сяўбы. Маюцца неабходныя машыны.

Калгас вышаў у поле з адсартаваным насеньнем.

*Калгас імя Сталіна* таксама арганізаваўся ў час сталінскага закліку. Адразу ў калгас уступіла 31 гаспадарка з беднякоў і сераднякоў.

Калгас выступіў у поле для правядзеньня сяўбы. Дрэнна толькі, што падрыхтоўка да выхаду ў поле праводзілася ня зусім добра па віне праўленьня калгасу. Але калгасьнікі па ўдарнаму ўзяліся за сяўбу і, калі ўзятыя тэмпы з выхадам у поле ня будуць зьніжаны, а шырэй разгарнецца сацспаборніцтва і ўдарніцтва—пляны сяўбы будуць выкананы. Райкалгассаюзу трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на работу праўленьня калгасу імя Сталіна.

**Канькоў.**



Калгасьнік-ударнік Панфіленка Майсей (Каралінскі р., камуна Праца).

# Працуем па-ўдарнаму

*(Рагачоўскі раён)*

27 красавіка калгас імя Сталіна выступіў у поле для правядзеньня веснавой сяўбы.

Падрыхтоўка да сяўбы пачалася загадзя, плян ачысткі насеньня выканан на 100 процантаў, поўнасьцю адрамантавана збруя. Таксама адрамантавана 24 плугі, 31 барана, 17 калёс і г. д. На час сяўбы забраніравана 750 пуд. сена, 350 пуд. саломы і 240 пуд. аўса.

Калгас заключыў умову з МТС і ўнёс 100 руб. на акцыі трактарацэнтру.

Насеньнем забясьпечаны поўнасьцю за выключэньнем тэхнічных і гародных культур.

Уся рабочая сіла разьбіта на брыгады. Уся работа пераведзена на зьдзельшчыну.

Калгасам праведзена работа па растлумачэньню сярод беднякоў і серадняко ў—аднаасобнікаў рашэньняў VI Усесаюзнага зьезду саветаў і III Усебеларускага зьезду калгасаў, пасьля чаго ў калгас імя Сталіна ўлілося 3 бядняцка-серадняцкіх гаспадаркі.

Пробны выезд у поле, які адбыўся 11 красавіка, і пачатак палявых работ паказалі, што калгас імя Сталіна веснавую сяўбу правядзе па-бальшавіцку. Уся работа зьвязаная з выкананьнем плянаў веснавой сяўбы праходзіць ударным парадкам.

**Я. Савіцкі.**



Засыпка насеньня ў сеялку (Калгас Чырвоны Спэцыяліст, Менскі раён).

# Заданьне выканаем

*(Латыскі сельсавет, Глускага раёну)*

Больш году ішла жорсткая клясавая барацьба на раскінутых па берагох ракі Пціча латыскіх хутарох вакол арганізацыі калгасу. Бяднейшая частка насельніцтва ўсімі сіламі старалася арганізавацца ў калгас і супольнымі сіламі будаваць лепшае жыцьцё, а кулацтва перашкаджала гэтаму. Але ўсё такі беднята перамагла і ў 1929 годзе латыскае працоўнае сялянства арганізавала свой нацыянальны калгас „Сарканайс Арайс“ (Чырвоны араты).

Кулацтва не пакідала сваёй работы, яно старалася разбурыць маладую калектыўную гаспадарку—пускаючы па хутарох усялякія чуткі і г. д. Арганізаваныя беднякі і серадпякі на ўсялякую кулацкую шкодную дзейнасьць—адказалі дружнай працай у калектыўнай гаспадарцы.

І дзякуючы дружнай працы калгас з кожным днём узмацняўся. Пляны сяўбы 1930 году калгасьнікі выканалі з перавышэньнем. Пры арганізацыі калгас меў усяго толькі 28 рабочых коняй, ды простыя плугі і бараны, а зараз маецца 56 рабочых коняй, 2 дзіскавыя сеялкі, 4 двухлямешныя плугі, 4 параконныя плугі, 20 барон „Зіг-заг“, 7 пружыновак, 2 конных грабель, гародная сеялка, палольнік, 20 параконных выездаў. Пабудаваны сьвінарнік на 100 сьвінаматак.

Пры разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў кожны працаздольны член калгасу атрымаў суму ў 260 рублёў. Гэта дасягнута дзякуючы таму, што з самага пачатку свайго існаваньня калгас перайшоў на зьдзельшчыну.

Калгас „Сарканайс Арайс“ зьяўляецца лепшым калгасам па Глускім раёне. Калгас карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод акаляючых бядняцка-серадняцкіх мас насельніцтва. Не здарма-ж і прыліў вялікі мае. Так, калі ў мінулую веснавую сяўбу калгас меў 33 гаспадаркі з плошчай: пахаці 442 *га*, сенажаці 187 *га*, дык у другую бальшавіцкую вясну ён мае ўжо 86 гаспадарак, 500 *га* пахаці і 500 *га* сенажаці. Адным словам гэты латыскі сельсавет калектывізаваны на 80 проц.

У гэтым годзе ў калгасе „Сарканайс Арайс“ пашыраецца яравы клін на 8 процантаў за лік прыбалотнай зямлі. Будзе праведзена асушка балота на плошчы ў 100 *га*. Ствараюцца 4 дапаможных гаспадаркі, будзе пабудаваны другі сьвінарнік на 200 сьвінаматак і 100 адкормачых сьвіней.

Калгасьнікі дружна выехалі ў поле для правядзеньня бальшавіцкай сяўбы. Уся рабочая сіла разьбіта на брыгады, да якіх прымацованы інвэнтар і цягавая сіла.

Шырока разгорнутае сацспаборніцтва і ўдарніцтва дае цьвёрдую ўпэўненасьць, што калгас „Сарканайс Арайс“ поўнасьцю выканае намечаныя пляны веснавой сяўбы.

**Ал. Дымкоў.**

---

## Шырэй соцбудаўніцтва і ўдарніцтва на пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы і падрыхтоўкі да ўборкі ураджаю!

# Падрыхтоўка да сяўбы дала новы прыліў

*(Шклоўскі раён)*

Камуна „Ільліч“ арганізавалася ў 1928 г. з сямі гаспадарак на плошчы 43 гект. пахатнай зямлі. Доўгі час камунарам не адразалася зямля ў адным месцы.

Ды і што гэта за камуна на 43 *га* зямлі?

Але спаянасьць камунараў, напружаная калектыўная праца для паляпшэньня свайго становішча паказала выгаднасьць калектыўнага жыцьця. Камунары на чале з старшынёй арганізатарам тав. Папковым, партыйцам, гаварылі:

— Хоць нас і не зямляўпарадкоўваюць, але мы ўсёроўна будзем жыць аднэй сям‘ёй і не разыдземся.

А што мы бачым зараз?

Камуна прыкладнасьцю сваёй прыцягнула да сябе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Зараз у камуне знаходзіцца 37 гаспадарак з плошчай 301 гектар зямлі пахаці. Камунары сваячасова справіліся з сяўбой і ўборкай ураджаю ў 1930 годзе, лішкі прадалі ў каапэрацыю.

Зацьверджаны плян пасеву на 1931 год у колькасьці: 50 *га* бульбы, 20 *га* аўса, 10 *га* ячменю, 10 *га* лёну, 18 *га* вікі як на насеньне, так і на корм, 4 *га* сілосу і гародніны на 5 *га*.

На свой плян пасеву забясьпечаны і пасеўным матар‘ялам. Увесь насенны фонд ачышчан на 100 проц. Машыны адрамантаваны, маецца свая кузьня, якая абслугоўвае і аднаасобнікаў.

Камунары — актыўныя працаўнікі ў сельсавеце, дапамагаюць сельсавету праводзіць усе мерапрыемствы партыі і ўлады. У гэтым сельсавеце плян сяўбы даведзен да кожнага двара.

Добры прыклад работы камуны адчуваецца сярод акаляючых вёсак. Яны арганізоўваюцца ў арцелі. За час падрыхтоўкі да веснавой сяўбы ў Таўкачоўскім сельсавеце арганізавана 5 новых калгасаў: Бараскавічы 32 гаспадаркі, Таўкачы 18 гаспадарак, Ляхаўка 12 гаспадарак, адным словам, у 5 калгасах аб‘яднана 95 гаспадарак. Праца па арганізацыі новых арцеляй праводзілася пры дапамозе камунараў камуны „Ільліч“.

Камуна заключыла ўмову з МТС. Можна сказаць сьмела, што веснавую сяўбу камуна правядзе па-бальшавіцку. Аб гэтым яскрава паказаў дружны і арганізаваны выхад у поле.

Г. Шумілаў.

# Не адстанем у сяўбе

*(Жлобінскі раён)*

Нацыянальны яўрэйскі калгас „Эрштэр май“ шмат меў перашкод з боку заможнікаў і кулацтва. Апошнія распускалі ўсялякія чуткі па вёсках і гэтым стараліся падарваць работу ў калгасе.

Але дарма. Яўрэйская бедната арганізаваўшыся ў калгас дружна змагалася з усякімі перашкодамі, будавала супольна лепшае жыцьцё. І ўжо зараз калгас „Эрштэр май“ мае значныя дасягненьні: ёсьць 40 коняй, з іх маладняка 12; кароў 266, з іх маладняка 90, вытворцаў 6, сьвінаматак 96, вытворцаў 4. Усе сьвіньні белай ангельскай пароды.

Калгас мае неабходны сельскагаспадарчы інвэнтар і збрую.

Да другой бальшавіцкай вясны калгасьнікі распачалі падрыхтоўку яшчэ з пачатку зімы. Ачышчана насеньне, адрамантаваны інвэнтар і збруя, выпрацаваны рабочы плян і г. д.

Калгас „Эрштэр май“ дружна прыступіў да правядзеньня веснавой сяўбы. На ўсялякую шкодніцкую работу, якую праводзіць кулацтва і варожыя элемэнты вакол нацыянальнага калгасу—калгасьнікі адказваюць упартай працай на калектыўных палетках.

— Не адстанем у правядзеньні бальшавіцкай сяўбы,—заяўляюць калгасьнікі.

Гарэлік Барыс.

# ГАСПАДАРЧА-АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ЗАМАЦАВАНЬНЕ КАЛГАСАЎ—БАЯВАЯ ЗАДАЧА

За апошні час па БССР мы маем значны зрух у справе разгортваньня калектывізацыі. За студзень месяц уступіла ў калгасы 8.876 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, за люты—15,679, за сакавік—23.825 і за красавік—34.201 гаспадарка. На 10 мая калгасны сэктар ахапляе 28,3 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Гэтых посьпехаў мы дабіліся дзякуючы ўпартай барацьбе за ажыцьцяўленьне ленінскай лініі партыі, у барацьбе з правым апартунізмам і „левымі“ антысерадняцкімі перагібамі ў калгасным руху.

Аднак, гэтыя посьпехі зьяўляюцца невыстарчальнымі, а ў радзе раёнаў абсалютна нездавальняючымі, а таму мы і надалей ні ў якім разе не павінны паслабляць, а яшчэ больш узмацняць масавую работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, давесьці да кожнага бедняка і серадняка пастановы VI зьезду саветаў па пытаньню калектывізацыі з мэтаю ўцягненьня іх у калгасы, рашуча падаўляючы кулацкае супраціўленьне і агітацыю супроць калгасаў. Мы павінны непаслабна змагацца з маючымі месца перагібамі ў калгасным руху, з усякімі праявамі апартунізму, са стаўкай на самацёк і прымірэнчымі адносінамі да кулака. Ні ў якім разе не парушаць ленінскіх прынцыпаў дабраахвотнасьці ў справе ўцягненьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы. Мы павінны прыняць усе меры да ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі, асабліва ў адстаючых раёнах (Гарадоцкі, Гомельскі, Рэчыцкі, Межынскі, Парыцкі, Бабруйскі, Бешанковіцкі і Чачавіцкі).

Разгортваючы работу па арганізацыі масавага прыліву ў калгасы, мы ні ў якім разе не павінны забываць таго, што „нельга весьці пасьпяховага наступленьня для ліквідацыі клясавых ворагаў, не замацоўваючы заваяваных пазыцый, не перагрупоўваючы свае сілы, не забясьпечваючы фронт рэзэрвамі, не падцягваючы тыл і г. д.“ (Сталін). Гэта значыць, што, дабіваючыся найшпарчэйшых тэмпаў у арганізацыі масавага прыліву ў калгасы, трэба рашуча ўзяцца за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне ў нова арганізоўваемых і існуючых калгасах.

Практычная задача калгасаў — гэта барацьба за пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы, найбольшае пашырэньне пасеўных плошчаў.

Для таго, каб пасьпяхова правесьці веснавую сяўбу, неабходна зьвярнуць максымум увагі на гаспадарчыя пытаньні калгаснага будаўніцтва, на замацаваньне калгасаў. На вялікі жаль рад раённых арганізацый сканцэнтравалі сваю ўвагу толькі на колькасным росьце калгасаў (а некаторыя і гэтага не зрабілі), упусьціўшы важнейшую гаспадарча-палітычную задачу — арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, без чаго немагчыма далейшае пасьпяховае прасоўваньне наперад. На сёнешні дзень мы маем такое становішча, што рост калгасаў абганяе іх арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне.

*Першае.* Узяць хаця-б такія паказальнікі, як абагульваньне рабочай жывёлы. Мы ўбачым вялікі разрыў паміж тэмпамі росту калектывізацыі і абагульваньнем рабочай жывёлы, асабліва па новаарганізаваных калгасах. Так, на 1 студзеня г. г. у калгасах было 116.670 гаспадарак, а рабочай жывёлы было абагулена толькі 88.852 штукі, г. зн., што на 1,3 гаспадаркі прыходзіцца адна рабочая адзінка. На 1 сакавіка ў калгасах было 141.227 гаспадарак, рабочай жывёлы—97.297 штук, альбо на паўтары гаспадаркі адна рабочая адзінка. На 1 мая—199.253 гаспадаркі, рабочай жывёлы—132.339 штук, альбо на 1,6 гаспадарку адна рабочая адзінка. Гэтыя лічбы сьведчаць аб вялікім адставаньні тэмпаў абагульваньня рабочай жывёлы, ад тэмпаў росту калектывізацыі ў нас па БССР.

Па некаторых раёнах мы маем яшчэ большы разрыў, напрыклад, на 1 студзеня па Чачэвіцкім раёне мелася на

адну рабочую адзінку 1,3 гаспадаркі, а на 1 мая—1,9 гаспадаркі, па Жлобінскім раёне—на 1 студзеня—1,4 гаспадаркі на адну рабочую адзінку, а на 1 мая—2 гаспадаркі на адну рабочую адзінку; па Прапойскім, Быхаўскім і Бешанковіцкім раёнах—на 1 студзеня—адна гаспадарка і на 1 мая—2 гаспадаркі на адну рабочую адзінку; па Гарадоцкім—на 1 студзеня 1,4 гаспадаркі, а на 1 мая—2,6 гаспадаркі і па Дрыбінскім—на 1 студзеня—1,6, а на 1 мая—4 гаспадаркі на адну рабочую адзінку.

Як відаць, гэтыя раёны не займаліся справай абагульваньня рабочай жывёлы, недааценілі гэтай непарыўнай задачы і спадзяваліся на самацёк.

Гэта скарыстоўваюць кулакі, якія вядуць шалёную агітацыю супроць калгасаў і часам пралязаюць у калгасы з мэтаю разбурыць яго знутры. Яны падбухторваюць калгасьнікаў, кажучы, што з абагульваньнем жывёлы можна пачакаць да вясны, пакуль жывёла ня выйдзе ў поле на падножны корм. Гэта кулацкая ўстаноўка бязумоўна адбілася на сваячасовым абагульваньні рабочай жывёлы. Аднак, гэтага ня ўлічваюць рад раённых работнікаў і не даюць рашучага бою гэтай кулацкай агітацыі, а ў некаторых мясцох дапамагаюць і праводзяць гэта на практыцы.

Старшыня Вузьдзенскага райкалгассаюзу, дзе новаарганізаваныя калгасы, пачынаючы са студзеня месяца, не абагулілі яшчэ жывёлы, заявіў: „Добра робяць, што зараз не абагульваюць. Абагуляць тады, як будзе падножны корм".

Такія разважаньні ня сустрэлі рашучага адпору з боку раённых кіруючых арганізацый, у выніку чаго мы маем у гэтым напрамку буйны прарыў. У Бярэзінскім раёне на сёнешні дзень па калгасах не абагулена больш як 300 рабочых коняй. У Заслаўскім раёне не абагулена па калгасах больш 350 дойных кароў. Вушацкі райкалгассаюз ня ведае, колькі па калгасах не абагулена рабочай і прадукцыйнай жывёлы.

Ня лепш стаіць справа і з абагульваньнем кароў. Ёсьць выпадкі неабагульваньня кароў на працягу году і больш (калгас імя Багінскага, „Ленінскі Шлях", Бярэзінскага раёну, местачковы калгас „Бялынічы" і г. д.). У радзе месц абагульваньне кароў адкладваецца з восені на вясну, з вясны на восень і г. д. Гэта таксама адбіваецца на гаспадарчым замацаваньні калгасаў.

Мала таго, што не абагульваюць кароў, а яшчэ карыстаюцца малаком і іншымі прадуктамі з абагуленага стада. Напрыклад, калгас „Ленінскі Шлях" Бярэзінскага раёну арганізаваўся ў лютым месяцы гэтага году і да гэтага часу не абагуліў кароў, а таварныя прадукты ад кулацкіх кароў і сьвіней, калгасьнікі, маючыя па 3 каровы, атрымліваюць. Старшыня гэтага калгасу Белахвосьцік Сяргей, маючы 3 каровы, якіх не абагуліў, на 6 чал. сям'і, атрымаў з калгасу 204 літры малака, 17 фунтаў масла, 73 фунты сала, 51 фунт мяса. Ня менш яго атрымалі перадавыя калгасьнікі, маючыя па 2—3 неабагуленыя каровы. Такіх выпадкаў ёсьць шмат. Райкалгассаюз, ведаючы пра гэту справу, нічога ня робіць у гэтым напрамку і ня цікавіцца павышэньнем таварнай прадукцыі калгасу.

Як вывад, трэба сказаць, што ад сваячасовага абагульваньня рабочай і прадукцыйнай жывёлы ў значнай меры залежыць гаспадарчая моц калгасу. Таму наша задача—зараз-жа пераключыцца на ліквідацыю гэтага прарыву і неадкладна абагуліць рабочую і прадукцыйную жывёлы, а таксама інвэнтар і ўсю маемасьць, падлягаючую, згодна статуту, абагуленьню.

*Другое.* Забесьпячэньне насеньнем калгасу. У гэтым напрамку мы маем вялікі прарыў.

На 1 мая створана насенфондаў па калгасах: па збожжавых культурах 105 проц. да пляну, па бульбе—56,3, па тэхнічных культурах—39,6, па аднагадовых травах — 27,6 проц. Быццам па збожжавых культурах справа стаіць ня дрэнна. Аднак, калі паглядзець па асобных раёнах, дык мы ўбачым пагражаючае становішча. Так, па Мазырскім раёне на 1 мая ссыпана 36,7 проц. да пляну, па Гарадоцкім—41,7, Асьвейскім—48,8, Пятрыкоўскім — 52,9, Прапойскім — 54, Расьнянскім — 55,7, Бягомльскім — 56,4,

Полацкім—56,8, Капаткевіцкім—58,4 і г. д. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што паказаныя раёны ня ўсё зрабілі па мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, па стварэньню насенфондаў, а спадзяюцца на самацёк. Зусім дрэнна становішча з насеньнем кармавых траў і бульбы.

Мы маем факты разбазарваньня насенных фондаў пры ўступленьні ў калгас. Праўленьні калгасаў, замест поўнага абагульваньня насеньня тымі гаспадаркамі, якія яго маюць, дапускаюць такія агідныя зьявішчы, што гаспадарцы, разбазарыўшай сваё насеньне перад уступленьнем у калгас, яны адпускаюць у лік авансу бульбу і іншыя культуры на харчы. Такі факт меў месца ў калгасе Бялыніцкага раёну, калі гаспадарцы, якая сваё насеньне разбазарыла, было адпушчана 80 пудоў бульбы і 50 пудоў іншых культур. Ёсьць шмат выпадкаў, калі насенныя фонды скармліваюцца жывёлай. Напрыклад, у Бярэзінскім раёне ў радзе калгасаў кармавыя фонды ўжо скормлены і нагляюдаюцца масавыя выпадкі скармленьня насенфондаў аўсу і бульбы і гэта ў той час, калі па раёне ёсьць недахват у насеньні.

Такое становішча ў далейшым нецярпіма. Трэба рашуча ўзяцца за мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў, рашуча ўдарыць па выпадках скармліваньня насеньня. Трэба арганізаваць перакідку насеньня з аднаго раёну і калгасу ў другі, бо ў некаторых раёнах і калгасах ёсьць лішкі. Трэба прыняць усе меры для таго, каб ніводнага гектару плошчы, вызначанага паводле пляну, не засталося незасеянай.

*Трэцяе.* Арганізацыя працы ў калгасах і перавод іх на зьдзельшчыну. Гэта мерапрыемства мае надзвычайна важнае значэньне ў гаспадарчым замацаваньні калгасу. Аднак, рад раённых арганізацый і ў першую чаргу райкалгассаюзы недаацэньваюць палітычна-гаспадарчай важнасьці гэтага мерапрыемства. Аб гэтым сьведчыць тое, што на 5 мая па БССР на зьдзельную сыстэму работ пераведзена толькі 4515 калгасаў, або 67 проц. у той час, як, згодна дырэктыў партыі і ўраду, усе калгасы павінны быць пераведзены на зьдзельшчыну не пазьней як 15 мая.

Невыкананьне гэтай дырэктывы тлумачыцца тым, што шмат калгасаў і калгасьнікаў ня ведаюць яшчэ што такое зьдзельшчына і як канкрэтна перайсьці на новыя мэтады работы. У гэтую справу невыстарчальна ўцягнута грамадзкасьць. Ёсьць выпадкі, калі калгасы пераводзяцца на зьдзельшчыну толькі на паперы; напрыклад, у Заслаўскім раёне, паводле вестак райкалгассаюзу, усе калгасы пераведзены на зьдзельшчыну, а на справе зусім наадварот, ні ў адным калгасе па сапраўднаму зьдзельшчына ня ўжываецца. У радзе месц ёсьць такія выпадкі, калі зьдзельшчына ўведзена, а нормы выпрацоўкі не даведзены да брыгад і паасобных калгасьнікаў. Зьдзельныя нормы не ацэнены ў працаднёх. Калгасьнікі ня ведаюць, якія работы адносяцца да лёгкіх, сярэдніх, цяжкіх і кваліфікаваных. Рабочая сіла не расстаўлена па брыгадах, ліквідацыя абязьлічкі не праведзена. Адсутнічае ўлік працы па калгасах, ад чаго залежыць поўнае і якаснае выкананьне норм выпрацоўкі і правільнае разьмеркаваньне прыбыткаў. Слабы тэмп унядрэньня зьдзельшчыны ў калгасах і факты скажэньня асноўных прынцыпаў зьдзельшчыны тлумачыцца выключна праваапартуністычнымі адносінамі з боку раду райкалгассаюзаў, якія не арганізавалі належнай практычнай дапамогі калгасам у пераходзе на зьдзельшчыну.

Бязумоўна, усе гэтыя недахопы выкарыстоўвае кулак, які прымае ўсе меры для таго, каб сарваць увядзеньне ў калгасах зьдзельшчыны. Напрыклад, у Заслаўскім раёне калгас „Максім Горкі" (Шапялёўскі сельсавет) пад уплывам кулацкай агітацыі адмовіўся ад увядзеньня зьдзельшчыны, нібы з тае прычыны, што калгас невялічкі, работнікі ўсе роўныя, а таму і зьдзельшчына непатрэбна. Гэта кулацкая агітацыя не спаткала рашучага адпору з боку сельсавету і камсамольскай ячэйкі гэтага калгасу.

Неабходна бязьлітасна ўдарыць па кулаках і іх агентах, якія пралезьлі ў калгасы і тармозяць работу па пера-

водзе калгасаў на зьдзельшчыну. Трэба ўстанавіць, як правіла, што новаарганізаваны калгас зараз-жа пасьля афармленьня павінен увесьці зьдзельны парадак работы з адначасовым складаньнем вытворчага пляну.

Пры пераводзе калгасаў на зьдзельшчыну, трэба як мага лепш арганізаваць масавасьць вакол гэтага пытаньня з тым, каб кожны калгасьнік і калгасьніца, прыступаючы да работы, загадзя ведалі, якую норму выпрацоўкі яны абавязаны выканаць, колькі працадзён, за якую колькасьць і якасьць гэтай работы ім будзе залічан працадзень. Трэба так наладзіць улік работы, пры якім кожнаму калгасьніку штодзённа павінна быць запісана колькасьць выпрацаваных ім працадзён ў яго працоўную кніжку. Пастановы ўсесаюзнай нарады па працы пастановы III усебеларускага зьезду калгасаў і VI усесаюзнага зьезду саветаў павінны быць безадкладна даведзены да кожнага калгасу, калгасьніка і аднаасобніка-бедняка і серадняка.

Нельга абыйсьці моўчкі і такога мерапрыемства, як пасылка *20 тысяч* старых калгасьнікаў у новыя калгасы для кіраўніцтва і *60 тысяч* новых калгасьнікаў на практыку ў старыя калгасы. Гэтая дырэктыва партыі ня выканана. Замест 900 старых калгасьнікаў, паводле вестак з 69 раёнаў, паслана толькі 508 і новых калгасьнікаў у старыя калгасы— замест 6.500, паводле вестак з 41 раёну, паслана толькі 2.272. Астатнія раёны вестак не прадставілі. Таму можна ўпэўнена сказаць, што яны ў гэтым напрамку нічога не зрабілі. Гэта дырэктыва партыі павінна быць безадкладна выканана ўсімі райкалгассаюзамі.

Некаторыя раёны, ганяючыся за высокімі тэмпамі калектывізацыі, дапускаюць масавае ўступленьне ў калгасы гаспадарак, да якіх даведзены цьвёрдыя заданьні. Ёсьць выпадкі арганізацыі калгасу ў большасьці з адных „цьвердавікоў“. Напрыклад, калгас імя Багінскага Бярэзінскага раёну, калгас „Вольная Праца“ Копыльскага раёну і г. д., прычым, гэтыя гаспадаркі да ўступленьня ў калгас разбазарваюць сваю маемасьць, асабліва рабочую і прадукцыйную жывёлу. Уступіўшыя ў калгас імя Багінскага (Бярэзінскі раён) 12 гаспадарак, да якіх даведзены цьвёрдыя заданьні, мелі па 6—8 кароў і да ўступленьня ў калгас разбазарылі іх.

Кулак імкнецца пралезьці ў калгас і разваліць яго знутры. Напрыклад, кулак в. Скуматова Дубровенскага раёну Голуб'яў—арандатар возера, маючы 30 гектараў зямлі, 2 кані, 4 каровы, малатарню і шмат іншай маемасьці, увесь час эксплёатаваўшы батракоў і беднату, пралез у калгас намесьнікам старшыні праўленьня і разбурыў гэтую калектыўную гаспадарку. Такое-ж становішча мы наглядаем у калгас „Чырвоны Май“ і імя Варашылава таго-ж раёну, дзе гаспадараньне кулакоў і заможнікаў прывяло гэтыя калгасы да разбурэньня.

Для замацаваньня калгасу неабходна ў штодзённай рабоце выяўляць і ачышчаць калгасы ад кулакоў і падкулачнікаў, якія пралезьлі ў калгас і перашкаджаюць замацаваньню іх. Работа па ачыстцы калгасаў ад кулакоў, у некаторых раёнах яшчэ да гэтага часу ня мае месца. Прымірэнчыя адносіны да кулакоў павінны быць разьбіты дашчэнту раённымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі.

Немалаважнае значэньне мае ў справе гаспадарчага замацаваньня калгасаў сваячасовае арганізацыйнае афармленьне іх. Аднак, маюць месца такія факты, калі калгасы не афармляюцца на працягу доўгага часу (Лепельскі і Нараўлянскі раёны). У Лепельскім раёне 8 калгасаў не зарэгістраваны ні ў райза, ні ў райкалгассаюзе, ня гледзячы на тое, што некаторыя з іх існуюць больш году. Адсутнасьць належнага кіраўніцтва з боку райкалгассаюзу і сельсаветаў прывяло да развалу ў гэтым раёне двох калгасаў.

18 новых калгасаў у Нараўлянскім раёне не афармляюцца. Ні райкалгассаюз, ні райвыканком ня ведаюць, што з сябе ўяўляюць гэтыя калгасы, наколькі яны падрыхтаваліся і як праводзяць веснавую сяўбу. Рымавіцкі сельсавет Бабруйскага раёну ня хоча афармляць калгасу ў в. Кругланіўцы, які арганізаван па ініцыятыве беднаты, у выніку чаго

не абрана праўленьне калгасу, інвэнтар, цягавая сіла і насеньне не абагулена.

У Брагінскім раёне не аддаецца ўвагі гаспадарчаму замацаваньню старых і новаарганізаваных калгасаў. Райвыканком і райкалгассаюз на працягу доўгага часу займаюцца толькі фіксаваньнем лічбаў калектывізаваных гаспадарак, але зусім ня цікавяцца жыцьцём калгасаў. Зацьверджаньне статуту новаарганізаваных калгасаў затрымліваецца на 2—3 месяцы. Калгас, арганізаваны ў в. Кручрубка, пад уплывам кулацкай агітацыі, якая не сустракае ніякага адпору, амаль разбурыўся.

Усе гэтыя факты сьведчыць аб тым, што арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў не стаіць у цэнтры ўвагі раённых і мясцовых арганізацый. Гэтыя недахопы скарыстоўвае кулак у сваёй барацьбе супроць калгаснага будаўніцтва.

Наша задача заключаецца ў тым, каб кожны новаарганізаваны калгас быў безадкладна аформлен. Пастанова праўленьня Калгасцэнтру БССР ад 4 красавіка ясна гаворыць, што кожны новаарганізаваны калгас павінен быць аформлен у пяцідзённы тэрмін. Пасьля яго афармленьня трэба неадкладна аформіць сродкі вытворчасьці, рабочую і прадукцыйную жывёлу і с.-г. інвэнтар, згодна статуту. Пастанову гэту райкалгассаюзы павінны безадкладна праводзіць у жыцьцё. За несваячасовае афармленьне калгасу, неабагуленьне маёмасьці ў першую чаргу адказвае райкалгассаюз, які павінен такім чынам паставіць сваю работу і разьмеркаваць сваіх работнікаў так, каб ня было ніводнага калгасу, да якога-б ня быў прымацаван адзін з работнікаў раённых або мясцовых арганізацый, які-б практычна дапамагаў арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў. Аднак, гэта ні ў якім разе ня зьнімае адказнасьці за гаспадарчае замацаваньне калгасу з праўленьня калгасу.

Ліквідацыя азначаных прарываў у арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні калгасаў ставіць перад намі задачу—рашуча перабудаваць работу раённых арганізацый з тым, каб выканаць важнейшую дырэктыву партыі і ўраду па зборы насенных фондаў, абагульваньні рабочай і прадукцыйнай жывёлы і інвэнтару, строга прытрымліваючыся статуту с.-г. арцелі і дырэктыў НКЗ і Калгасцэнтру па арганізацыі і пераводу калгасаў на зьдзельшчыну, своечасовым афармленьні калгасаў, гаспадарчым замацаваньні іх і штодзённым кіраўніцтве імі з боку партыйных і савецкіх і ў першую чаргу калгасных арганізацый.

Рашуча разгортваючы далейшае пасьпяховае наступленьне на кулака, барацьбу з праявамі апартунізму і стаўкай на самацёк, з „лявацкімі“ заскокамі і голым адміністраваньнем у кіраўніцтве калгасамі, з гнілымі „тэорыямі“, нібы калгасы могуць узмоцніцца без рашучага наступленьня на кулака—будзем мацаваць і пашыраць перамогу сацыялістычнага сэктару вёскі і разгортваць суцэльную калектывізацыю і на гэтай аснове ліквідацыю кулацтва, як клясы.

**П. Скавінскі.**

## Усе сілы на хутчэйшае сканчэньне сяўбы, на баявую падрыхтоўку да ўборкі, на далейшае разгортваньне суцэльнай калектывізацыі!

„Для таго, каб вырашыць задачу падваеньня спажываньня мяса і малака, кармавыя рэсурсы нашай краіны трэба павялічыць у паўтары разы“.

(Якаўлеў)

# ЗА ПРАВІЛЬНУЮ ПАСЬБУ ЖЫВЁЛЫ Ў САЎГАСАХ І КАЛГАСАХ

Ажыцьцяўленьне правільнай пасьбы жывёлы магчыма толькі ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі. Дробная аднаасобная гаспадарка ўжывала і працягвае ўжываць так званы парадак вольнай пасьбы жывёлы, пры якім пастух ганяў і ганяе скаціну на пасьбу і з пасьбы вялікай жорсткай пугай.

Спосаб пасьбы на прывязі не знашоў і ня мог знайсьці ў нас шырокага ўжываньня. Ён быў занесен да нас з-за мяжы ў час сталыпіншчыны, так як насаджаныя ім, а потым прышчэпаўшчынай хутары і атрубы не знаходзілі і не маглі знайсьці інакшага выхаду, як пасьба на прывязі. У асобных гаспадарках пачалі ўжываць стойлавае кармленьне жывёлы круглы год, па прыкладу таксама асобных замежных хутароў і атрубоў. У выніку гэтага жывёла стала слабая, меліся больш частыя выпадкі захворваньня жывёлы, асабліва сухотамі. Акрамя гэтага павялічыўся кошт утрыманьня жывёлы амаль што ў тры разы. Устрайваемыя выганы жывёлы ў загоны на прагулку ня толькі ўлетку, але і ў цёплыя зімовыя дні, больш пасіленае кармленьне сакавітымі кармамі (караньплоды, сілос і г. д.) не замянілі, а толькі крыху зьмякчылі шкодныя вынікі ўтрыманьня жывёлы круглы год у хлеве.

Пагэтаму трэба было адмовіцца ад стойлавага ўтрыманьня круглы год, як ад выхаду з становішча хутарской і атрубной сыстэмы гаспадаркі.

Гэты „выхад“ быў знойдзен у пасьбе жывёлы на прывязі, але гэта таксама ня выхад, а тупік. Тупік таму, што ва ўмовах атрубной аднаасобна-хутарской гаспадаркі выхаду няма, у такім важнейшым пытаньні як правільная пасьба жывёлы.

Прафэсар Нямеччыны Косьцер вывеў, што пры аднэй і тэй-жа пасьбе прывязаная карова давала ў дзень на 600-800 грам малака менш, чым на гэтай-жа пасьбе карова ня прывязаная. Маладняк ня прывязаны даў прывес у жывой вазе куды больш, чым маладняк прывязаны на пасьбе. Акрамя гэтага процант хворых з слабым хрыбетнікам маладняка выявіўся куды вышэй пры пасьбе на прывязі.

Звычайна гавораць, што пасьба на прывязі мае такую перавагу, што ў параўнаньні з вольнай пасьбой жывёлы, ён лепш выкарыстоўвае пасьбу і эканомней, не затаптваецца трава жывёлай. Але калі нават гэта даказана і праверана, дык і тады гэта становішча ў абарону перавагі спосабу пасьбы на прывязі, перад спосабам вольнай пасьбы, ня мае пад сабой ніякай падставы і вось чаму: былі параўнаньні прывязанай пасьбы і вольнай пасьбы ва ўмовах дробнай аднаасобнай гаспадаркі. А мы ўжо казалі, што спосаб вольнай пасьбы ва ўмовах дробнай аднаасобнай гаспадаркі ёсьць ня верна арганізаваны спосаб вольнай пасьбы.

У чым заключаецца яго нявернасьць?

А вось у чым. Пры няверным спосабе вольнай пасьбы, пастух стада ганяе і гоніць па галодным пасьбішчы. Вось чаму атрымалася ўражаньне больш правільнага скарыстаньня пасьбішча споса-

бам пасьбы на прывязі. Пры правільна арганізаваным спосабе вольнай пасьбы жывёлы, спосаб пасьбы на прывязі ня можа вытрымаць і гэтай тэхнічнай перавагі, якая яму прыпісваецца памылкова, або проста па непаразуменьню. Спосаб пасьбы на прывязі быў народжан умовамі атрубной хутарской капіталістычнай гаспадаркай, з ёю ён і пакончыць сваё існаваньне.

Ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі правільна арганізаваны спосаб вольнай пасьбы жывёлы ёсьць і застаецца, як асноўны спосаб пасьбы жывёлы.

**У чым заключаецца правільна арганізаваная пасьба жывёлы?**

А ў тым, што пастух стада ня гоніць (як гэта мае месца ў няправільнай вольнай пасьбе ў дробнай аднаасобнай гаспадарцы), а вядзе яго. Для таго, каб стада весьці, трэба палепшыць пасьбішча, трэба ў корані зьмяніць абыходжаньне пастуха— гэтага галоўнейшага жывёлавода ў саўгасах і калгасах—з жывёлай. Трэба пугу пастуха замяніць ражком, градусьнікам, капытным ножыкам, троокарам, ведам аб правільным скарыстаньні пасьбішча аб правільным кармленьні жывёлы, уменьне аказаць першую дапамогу захварэўшай жывёле. Усе гэтыя магчымасьці могуць быць толькі ў буйнай сацыялістычнай гаспадарцы.

Пры такім пастуху, які ня вядзе жывёлу, а ганяе яе пугай і якому на працягу цэлага паўгоду даручаецца такая каштоўнасьць, як жывёла саўгасаў і калгасаў, жывёлагадоўчую праблему, пастаўленую партыяй і ўрадам, як поўнага жыцьця праграму дня, вырашыць будзе цяжка. Патрэбна зьвярнуць вялікую ўвагу на ўсе пытаньні, забясьпечваючы правільную пасьбу жывёлы ў саўгасах і калгасах.

Вось галоўнейшыя моманты правільна арганізаванай вольнай пасьбы жывёлы:

1. Пачаць безадкладную работу па палепшаньню пасьбішча альбо павярхоўным яго палепшаньнем, яшчэ лепш карэнным палепшаньнем.

2. Забясьпечыць усе магчымасьці для пастухоў па атрыманьні ведаў па правільнай пасьбе жывёлы шляхам праходжаньня завочных курсаў пастухоў, выпіскі літаратуры і г. д. Высоўваць лепшых калгасьнікаў па пасьбе жывёлы, вышэй праводзіць яе ацэнку ў працаднях, чым было дагэтуль. Прэміраваць за лепшую пасьбу жывёлы.

3. Для правільнага скарыстаньня пасьбішча праводзіць яго разьбіўку на некалькі пасьбішчных вучасткаў, пры гэтым разьбіўку праводзіць улічваючы натуральныя ўмовы пры адбіваньні аднаго пасьбішчнага вучастка ад другога. Каб не рабіць шмат загародак, трэба імкнуцца падганяць пры разьбіўцы пасьбішча на вучасткі так, каб ён прыходзіўся пасярэдзіне ўсяго пасьбішчнага вучастку. Нізінныя вучасткі прыстасоўваць да пасьбы ў сухую пагоду, а больш высокія вучасткі ў вільготную пагоду.



Жывёлавод калгасу Ланд Арбайт Міхілін.

4. Перад выганам жывёлы на пасьбу—пасьбішча трэба агледзіць і ачысьціць ад трупаў жывёлы, касьцей, каменьняў, шклянак і г. д.

5. Жывёлу перад выганам на пасьбішча трэба таксама агледзіць у прысутнасьці вэтурача.

6. Пасьбу жывёлы трэба ўжываць вольную—правільна арганізаваную, пры чым ня трэба гнаць скаціну, а весьці на пасьбу. Арганізацыя кармленьня з-пад нагі зьяўляецца прыёмам вольнай пасьбы. Гэты прыём заключаецца ў тым, што пастух выстрайвае ў адну лінію жывёлу і ня пускае за гэту лінію пакуль ня будзе выедзена трава на адлегласьці 2-3 шагоў, а затым яшчэ на шаг, на два і г. д. Жывёла звычайна хутка прывыкае к гэтаму прыёму вольнай пасьбы на добрых пасьбішчах.

З пасьбы к канцу дня ня трэба гнаць да хаты, а весьці яе ціха і спакойна без шканьня і ўдараў.

7. Ужываць разьдзельную пасьбу жывёлы, адводзячы лепшыя і бліжэйшыя вучасткі пасьбішча маладняку і малочнай рагатай жывёле, лепшыя дальнія вучасткі коням і астатняй рагатай жывёле, а найбольш скудныя вучасткі авечкам.

Для больш чыстага аб'яданьня пасьбішчных вучасткаў трэба ўжываць пасьбу авечак пасьля скармліваньня вучастка буйнай рагатай жывёлай. Абавязкова ўжываць дасканальную раскідку гною, які астаўся пасьля жывёлы на пасьбішчным вучастку, у гэты-ж дзень, як толькі жывёла пераходзіць на другі пасьбішчны вучастак.

8. Каб не вадзіць у гарачае надвор'е жывёлу да хаты з далёкіх пасьбішч, трэба адбудаваць хлявы-навесы на гэтых пасьбішчах. Магчыма ўжываць начную пасьбу ўсіх відаў жывёлы ў асобліва гарачае надвор'е.

9. Абавязкова правесьці падкормку жывёлы ў скотным двары, калі пасьба ідзе на скудным пасьбішчы і жывёла не наядаецца.

10. Кожны год трэба вычышчаць стаячыя вадапоі (пруды), абгарадзіць вадапоі з мэтай адхіленьня магчымасьці і забруджаньня самой жывёлы. Недапускаць паласканьня бялізны, мачэньня канаплі, лёну і кіданьня трупаў жывёлы ў вадапой, якім карыстаецца стада. Не карміць жывёлу адразу пасьля сьвежай, сырой маладой травы, а пачакаўшы гадзіны 2--3.

11. Ня пасьвіць зранку жывёлу па маладой канюшыне, па такіх пасьбішчных вучастках, дзе шмат шкодных траў (чамярыца, дурман, калужніца і г. д.). Нявыконваньне гэтага вядзе к атручваньню жывёлы і захворваньню. Сытая жывёла менш падпадае гэтай небясьпецы. Жывёла тады абойдзе атрутную траву і ня так многа будзе есьці маладой канюшыны. Гэта значыць, што такія вучасткі трэба скарыстоўваць ня зранку, а к вечару.

12. Ня прымаць у стада жывёлы з боку без агляду вэтурача, дзяржаць жывёлу ня менш 3 тыдняў пасьля вэтагляду асобна. Пабудаваць скотныя могілкі. Паўшую ад заразьлівай хваробы жывёлу закопваць толькі на скотных могілках. Пры захворваньні жывёлы неадкладна зьвяртацца за вэтдапамогай.

Круглоў.

## Дабіцца высокай удойлівасьці каровы—галоўнейшая задача жывёлагадоўчых калгасаў.

# „Белакрыльнік“ — сурагат корму для жывёлы

Пад сурагатамі кармоў звычайна разумеюць такія кармы, з дапамогаю якіх гаспадар, у выпадку недахопу кармоў, увязвае кармавы балянс у сваёй гаспадарцы. Аднымі гэтымі кармамі карміць жывёлу нельга, бо яны зьмяшчаюць у сабе недастатковую колькасьць спажыўных матэрый. Скарыстоўваецца гэты корм як падспор'е да асноўнага корму. У выніку—эканомія ў асноўных кармох.

Шмат у каго пануе думка аб гэтых сурагатах, як аб „дробязі“. Гэты погляд памылковы. Папершае, некаторыя з гэтых сурагатаў жывёлы ядуць з вялікай ахвотай і яны (сурагаты) даволі багаты спажыўнымі матэрыямі, і падругое—нарыхтоўка некаторых гэтых сурагатаў не патрабуе асобных затрат. Калгасы не павінны“ цурацца гэтых сурагатаў, прынамсі ў час арганізацыйнага пэрыоду, калі заўсёды могуць быць усялякія цяжкасьці ў кармовым пытаньні.

На старонках часопісу „Шляхі калектывізацыі (№ 5 арт. „Цэларэз, як корм для жывёлы) мы ўжо гаварылі аб адным такім сурагаце. Працуючы ў экспэдыцыі па абсьледваньні буйнай рагатай жывёлы БССР у 1929 г., нам прыходзілася сустракацца з выпадкамі карыстаньня, як кормам і шмат іншымі расьлінамі, ня зусім звычайнымі са звычайнага пункту гледжаньня. Па шляху з Давыдаўкі ў Загор'е (Мазыршчына, Азарыцкі раён) нам сустракаліся вазы нагружаныя нейкай, відаць, балотнай расьлінай. На наша запытаньне сяляне адказалі, што яны вязуць „бабоўнік“ для сьвіней. Па іх словах яны часта спэцыяльна езьдзяць за „бабоўнікам“ і зьбіраюць яго па вільготных і нізкіх мясцох, альшаніках і тарфяніках. Дома „бабоўнік“ дробна сякуць і даюць сьвіньням, якія ядуць яго з вялікай ахвотай. Часам страўліваюць „бабоўнік“ і ў мешанцы з вадой і высеўкамі.

Як сьведчаць сяляне, адмоўных бакоў пры кармленьні сьвіней „бабоўнікам“ не назіралася. Сьвіньні заставаліся здаровымі. Якасьць прадукцыі таксама не пагоршылася.

Заехаўшы да старшыні Сярэдня-рудзенскай малочнай арцелі—даволі культурнага гаспадара—на дварэ ў апошняга зноў знайшлі мы цэлыя кучы навезенага „бабоўніку“, які быў вызначаны для скармліваньня сьвіньням. Гэта ўсё гаворыць за тое, што расьліна гэта дае даволі добрыя вынікі пры страўліваньні яе сьвіньнямі.

На балотах Мазыршчыны, ды і па ўсёй БССР „бабоўніку“ расьце шмат.



Бела рыльнік.

Вывад такі—трэба гэтую расьліну скарыстаць, азнаёміўшы з ёю шырокія колы калгасьнікаў. Батанічная назва гэтай расьліны—„белакрыльнік балотны“ з сямейства аронікавых. Але-ж у розных мясцовасьцях яе завуць па-рознаму. На Магілеўшчыне яна завецца „жытніца“, у б. Цьвярской губ. „лягушачнікам“, у б. Аланецкай губ. „вадзяны корань“, на Мазыршчыне „бабоўнік“, у некаторых другіх месцах „хлебнік“ і інш.

Расьліна гэтая мае паўзучае, членістае, тоўстае карнявішча, з якога данізу адыходзяць кальцом вяроўкападобныя карані і 2—3 буйных глянцавітых шырокіх





Даяркі камуны „Праца“, Каралінскі раён.

сэрцавідных лісты. Кветкі сабраны ў пачатку з асабістым крыючым лістом. Гэты чахол з унутранага боку срабрыстага колеру, а з надворнага—зялёнага. Кветкі белыя, плады чырвоныя, ягады атрутныя, бываюць пакрыты студзяністай матэрыяй. Расьліна расьце ў стаячай вадзе, на балотах, па вязкіх берагох прудоў, рэчак і г. д. Цьвіце з паловы мая да канца чэрвеня.

На мясцох брыгадам масавага вопытніцтва і рацыяналізацыі трэба прыглядзецца бліжэй да гэтай расьліны і паставіць над ёю досьледы з тым, каб у выпадку станоўчага адказу на запытаньне прыгоднасьці яе ў якасьці корму, арганізаваць масавы збор і нарыхтоўку гэтай расьліны.

А. М. Сяргееў.

## Перапіска з селькорамі.

Савіцкаму *(Рагачоўскі раён)*. Ваш допіс „Арганізуем сьвінаводныя фэрмы“ ня пойдзе. Вы толькі напісалі аб тым, што арганізаваліся сьвінаводныя фэрмы, а як яны працуюць, як у іх унядраецца зьдзельшчына—аб гэтым не ўказалі. Пішэце як працуюць сьвінаводныя фэрмы вашага раёну.

Снытко *(Магілеў)*. Артыкул „Радыёфікаваны калгас“ ня пойдзе. Вы ў сваім артыкуле ахапілі шмат тэм і ні з аднэй ня справіліся. Бярэце лепш менш тэм і лепш іх апрацоўвайце.

Самцэвічу *(Барысаў)*. Артыкул „Задачы краязнаўчых арганізацый у падрыхтоўцы к правядзеньню другой бальшавіцкай вясны“, „Калгаснае будаўніцтва і савецкае краязнаўства“ ня пойдуць. Аб гэтым ужо было зьмешчана ў папярэдніх нумарох нашай часопісі,

Артыкул „Калектывізацыя ўзмацняе абароназдольнасьць краіны“ таксама ня пойдзе, вельмі няўдалы набор слоў.

## Адказы на запытаньні.

**Канькову Пятру** *(Шклоўскі раён, Гарадзішчанскі сельсавет)*

**Запытаньне**: Калгасы імя Сьвярдлова і Дзяржынскага ня прымаюць новыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў калгас таму, што ідзе сяўба. Ці правільна паступаюць гэтыя калгасы?

**Адказ**: Памянёныя вамі калгасы і ў першую чаргу праўленьні гэтых калгасаў бязумоўна паступаюць няправільна. Праўленьні калгасаў, якія адмаўляюць беднякам і сераднякам у прыёме іх у калгасы, дапамагаюць кулаку ў яго барацьбе супроць калектывізацыі. Пэрыяд сяўбы, ці ўборкі трэба самым шырокім парадкам выкарыстоўваць для ўзмацненьня тэмпаў суцэльнай калектывізацыі і на гэтай аснове ліквідацыі кулацтва як клясы.

Вашы прапановы—адвесьці зямлю для вёскі ў 250 гаспадарак, якая не ўвайшла ў калгас, у такім месцы, каб ім трэба было перасяліцца і гэтым самым прымусіць іх увайсьці ў калгас—зьяўляецца няправільнымі. Калі так рабіць, гэта значыць рабіць перагібы і зрываць калектывізацыю, а гэтым самым дапамагаць кулаку ў яго барацьбе супроць калгаснага руху. Не адміністраваць трэба, а весьці шырокую растлумачальную работу сярод беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў—за хутчэйшы іх пераход на шлях калектывізацыі, бязьлітасна змагаючыся з кулаком і яго агентамі—апартуністымі.

# Селькоры!

**Дасылайце ў рэдакцыю часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ прапановы да Ўсебеларускага зьезду рабселькораў па пытаньню, як найлепш арганізаваць выданьне шматтыражкі і насьценгазэты ў калгасах, саўгасах і МТС, як лепш паставіць работу сярод селькораў.**

Адказныя рэдактары: Міцькоў.
Н. Міхайлаў.

Заказ № 1066. 5.000 экз. Галоўлітбел № 1122

Друкарня імя Сталіна.

# Пашырым падпіску на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“ і часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“.

**Кожны раён павінен зараз-жа разгарнуць належную работу за выкананьне вызначаных кантрольных заданьняў на газэты і часопісі.**

| Раён | Газэта „Колгаснік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ | Раён | Газэта „Колгаснік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ |
|---|---|---|---|---|---|
| Азарыцкі | 600 | 40 | Лельчыцкі | 550 | 40 |
| Аршанскі | 1500 | 110 | Лезьнянскі | 950 | 65 |
| Асіповіцкі | 600 | 60 | Лепельскі | 2500 | 85 |
| Асьвейскі | 675 | 52 | Лоеўскі | 1150 | 65 |
| Бабруйскі | 1000 | 100 | Любаньскі | 800 | 40 |
| Багушэўскі | 800 | 80 | Ляднянскі | 450 | 53 |
| Барысаўскі | 1000 | 80 | Магілеўскі | 1600 | 135 |
| Бешанковіцкі | 1000 | 92 | Мазырскі | 1150 | 90 |
| Брагінскі | 1500 | 80 | Межанскі | 600 | 55 |
| Быхаўскі | 1000 | 70 | Менскі | 2250 | 103 |
| Буда-Кашалёскі | 900 | 40 | Мсьціслаўскі | 1900 | 130 |
| Бягомльскі | 1500 | 120 | Нараўлянскі | 900 | 63 |
| Бялыніцкі | 1200 | 90 | Парыцкі | 1000 | 80 |
| Бярэзінскі | 950 | 70 | Плешчаніцкі | 1250 | 90 |
| Веткаўскі | 1600 | 65 | Полацкі | 1750 | 105 |
| Ветрынскі | 750 | 45 | Прапойскі | 1250 | 70 |
| Валынецкі | 1200 | 80 | Пухавіцкі | 1150 | 85 |
| Віцебскі | 1500 | 90 | Пятрыкоўскі | 1100 | 65 |
| Вульскі | 1200 | 85 | Рагачоўскі | 1300 | 90 |
| Вузьдзенскі | 600 | 60 | Расьнянскі | 825 | 60 |
| Вулацкі | 1300 | 80 | Расонскі | 950 | 55 |
| Высочанскі | 1150 | 60 | Рэчыцкі | 1100 | 70 |
| Гарадоцкі | 800 | 55 | Сененскі | 1900 | 140 |
| Горацкі | 1500 | 105 | Сіроцінскі | 1500 | 100 |
| Гомельскі | 1350 | 45 | Слуцкі | 1650 | 95 |
| Глускі | 1000 | 70 | Смалявіцкі | 900 | 65 |
| Грэскі | 1000 | 72 | Старобінскі | 900 | 55 |
| Дрыбінскі | 850 | 66 | Сураскі | 900 | 68 |
| Дрысенскі | 700 | 68 | Сьвіслацкі | 750 | 57 |
| Дубровенскі | 1050 | 90 | Сьмілавіцкі | 700 | 52 |
| Жлобінскі | 1000 | 55 | Стара-Дароскі | 800 | 60 |
| Журавіцкі | 750 | 42 | Талачынскі | 1500 | 110 |
| Жыткавіцкі | 750 | 55 | Тураўскі | 850 | 70 |
| Заслаўскі | 900 | 40 | Уваравіцкі | 850 | 30 |
| Камарынскі | 900 | 40 | Холопеніцкі | 1000 | 95 |
| Капаткевіцкі | 500 | 40 | Хоцімскі | 1500 | 90 |
| Каралінскі | 1000 | 70 | Хойніцкі | 1100 | 50 |
| Кармянскі | 1250 | 100 | Церахоўскі | 1500 | 60 |
| Касьцюковіцкі | 3150 | 155 | Чачэрскі | 750 | 30 |
| Клімавіцкі | 3500 | 85 | Чарэйскі | 1000 | 110 |
| Клічаўскі | 700 | 65 | Чашніцкі | 1000 | 75 |
| Копыльскі | 1100 | 95 | Чавускі | 1300 | 105 |
| Копыскі | 1200 | 100 | Чачэвіцкі | 350 | 30 |
| Коханаўскі | 1250 | 120 | Чырвонапольскі | 950 | 90 |
| Койданаўскі | 2000 | 95 | Чэрвенскі | 750 | 53 |
| Круглянскі | 1300 | 95 | Чырвона-Слабодз. | 800 | 35 |
| Крупскі | 600 | 65 | Чэрыкаўскі | 1600 | 92 |
| Крычаўскі | 1500 | 85 | Шклоўскі | 1500 | 100 |
| Лагойскі | 1150 | 60 | Юравіцкі | 600 | 35 |

**Калгасцэнтр БССР**

## ЧЫТАЧЫ!

Апошні тэрмін здачы падпіскі на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“, на часопісы „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“, ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ і „КААПЭРАЦЫЯ БССР“ 23 числа кожнага месяцу.

Падпіску здавайце ў бліжэйшыя паштовыя аддзяленьні, альбо лістаносцу. Сваячасовая здача падпіскі гарантуе акуратную дастаўку.

**Выдавецтва ЦК КП(б)Б**

ЦАНА 15 кап.



Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1066. 5 000 экз. Галоўлітбел № 1007.